«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (190), чэрвень 2022 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 6 (190) (чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online
facebook.com/litaraturnaja.belarus




Змест





# Янка Купала: пясняр, прарок, ваяр

## 140 гадоў з дня нараджэння

Геніі і прарокі нараджаюцца ў лёсавызначальныя для народаў і нацыяў часы. Янка Купала быў абуджаны да творчасці беларускім народам — каб тварыць нацыю. Украінец Тарас Шаўчэнка ды беларус Францішак Багушэвіч усё жыццё пісалі раманы пад назвамі Украінскі ды Беларускі народы, а іх наступнікі Іван Франко і Янка Купала складалі паэмы пад назвай нацыі.

Янка Купала першым на стагоддзе ўперад прамовіў кліч «Жыве Беларусь!». Ён напісаў шмат вершаў, паэмаў, п’есаў, ён жа напісаў і дзяржаву Беларусь. Напісаў у самыя важныя гады станаўлення краіны. Якраз 18-ы, 19-ы і 20-ы гады мінулага стагоддзя — гады адстойвання беларускай дзяржаўнай незалежнасці — сталі вехавым і кульмінацыйным этапам творчай і грамадскай дзейнасці Янкі Купалы.

У напісаных у той час творах ён яскрава выявіўся правадзейным прарокам беларушчыны, з’яўленне якога прасіў вершам «Паўстань...».

Ён верыў у прыснулую ў народзе сілу самастойнасці, гаспадарнасці, вольнасці, і найперш на яе й разлічваў, калі пісаў: *«Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. <...> час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат...»* (артыкул "Больш самачыннасці")

Аднак ён не падманваў сябе міражнымі ўтопіямі. Ён не паддаўся самаўпэўненасці некаторых беларускіх дзеячоў, хворых на палітычную блізарукасць, — з якім сарказмам яны выкрыты ў Купалавым вершы «Пяць сенатараў»! І які напамін «сенатарам» сучасным! *«Мінулы год* (1919-ы. — **А.А.**) *шмат каму з беларускага грамадзянства адкрыў вочы, асляпленыя тымі ці іншымі ўтопіямі і абяцанкамі,* — вяшчаў Я. Купала ў артыкуле «Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год». — *Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты* (бальшавікі ды прамаскоўцы. — **А.А.**) *і ап’янелыя пераможамі нацыяналісты* (прапольскія. — **А.А.**) *не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці. Яны яе дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой, пакуль сам беларускі народ не скажа свайго апошняга слова»*.

Падчас шматлікіх акупацыяў-«вызваленняў» Беларусі Я. Купала адкрыта выкрываў і бальшавікоў, і немцаў, і палякаў (артыкулы «Больш самачыннасці», «Справа незалежнасці Беларусі...» і інш.). Больш за тое, Я. Купала спрагназаваў-спрарочыў наш доўгі пакутлівы шлях да сваёй дзяржаўнасці і незалежнасці. Праграмным бачацца ягоныя артыкулы «Адбудова Беларусі» і «Незалежнасць».

Тады, у 1919 годзе, у Я. Купалы не было веры ў «сапраўднасць» ні БНР, ні БССР. Ён чакаў Рэспубліку Беларусь. *«Беларусь, як і іншая дзяржава, мае права і даб’ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі»*. Гэтае горычнае «раней ці пазней» паўторыцца і ў Купалавым артыкуле «Зямельная спекуляцыя»...

Свае прароцкія спевы паэт звяраў з біблейскімі гімнамі, за святы Іерусалім прымаючы сваю Бацькаўшчыну. Пацвярджэннем таму — ягоны вольны пераклад 78-а біблейнага псалма. Не выпадкова ж у кананічныя радкі ўплятаюцца думкі пра «слухмяны народ» і «захад ды ўсход», якіх у арыгінале не было:

*Вылі гнеў твой на паганцаў,*
*што вечна цябе*
*Знаці не знаюць — яны, іх сям’я;*
*Вылі гнеў твой і на царствы,*
*ў сваёй што мальбе*
*Вечна твайго не ўзывалі імя.*
*Бо ўсмярцілі яны твой*
*слухмяны народ,*
*Месца яго спусташылі*
*на захад і ўсход.*

Але толькі прароцтва і песнярства не маглі «адбудаваць збураны пасад» Беларусі. Нацыю чакала змаганне, і пра тое вяшчаў Я. Купала — і не толькі ў вершах ваяцкага ладу, не толькі ў гімнах-закліках кшталту:

*Паўстань з народу нашага, Ваяк,*
*І волатам на вогненным кані*
*<...>*
*За бацькаўшчыну павядзі ў агні!* —

але і ў публіцыстычных артыкулах-маніфестах. *«Мы толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб як найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь,* — пісаў ён, да прыкладу, у артыкуле «Беларускае войска». — *Нават рэвалюцыя <...> не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі. <...> А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі»*.

Але не толькі адно Слова было зброяй Ваяра-Купалы. «Свой край завяваць» намагаўся ён і чынным удзелам у грамадска-палітычным жыцці краіны. Калі 10 жніўня 1919 года ў акупаваным палякамі Менску ўтварыўся Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт (прадстаўнічы орган беларускіх арганізацый, своеасаблівы «ўрад народнага даверу»), Я. Купала адным з першых увайшоў у ягоны склад — разам з У. Ігнатоўскім, Я. Лёсікам, С. Рак-Міхайлоўскім, А. Гаруном (апошні быў абраны старшынёй) і іншымі. Камітэт дамагаўся ад польскіх уладаў прызнання незалежнасці БНР і аднаўлення дзейнасці ейнай Рады. А калі восенню таго ж года ў Менск пераехала Беларуская вайсковая камісія, за працу ў ёй першымі бяруцца А. Гарун ды Я. Купала...



Якаў Кругер. Партрэт Янкі Купалы

У вершах, паэмах, публіцыстыцы Я. Купала запраграмаваў не толькі нацыянальную эстэтыку, але і акрэсліў неабходную мадэль дзяржаўнага ўладкавання — ад галоўных грамадскіх установаў, ад дзяржаўнага «сойму» і нацыянальнага войска да мясцовых і валасных самаўрадаў. Ён на стагоддзі наперад апеў галоўныя атрыбуты нашай незалежнасці: беларускі нацыянальны сцяг (артыкул «Беларускі сцяг уваскрос!») і нацыянальны гімн («Справа беларускага нацыянальнага гімна»).

Толькі тыя ідэі Я. Купалы аніяк не сумяшчаюцца з сучаснай ідэалогіяй, а таму — як некалі і ў БССР — постаць паэта і ягоная спадчына працягваюць прафанавацца. Як і раней, творчасць нацыянальнага генія вывучаецца, але і «рэдагуецца» (разам з легендарнымі «Тутэйшымі» і Нацыянальным тэатрам ягонага імя).

«Сёння зноў пад пагрозай Купалавы спадзевы ўбачыць Бацькаўшчыну незалежнай, яе народ — свабодным і заможным, беларускую мову — адроджанай. Беларускіх пісьменнікаў — Купалавых наступнікаў — улада зневажае, у той жа час усхваляючы ворагаў беларушчыны. Беларускіх педагогаў прыніжаюць жабрацкімі заробкамі й прымушэннем ізноў казаць няпраўду. Зачыняюць беларускія газеты, а супраць беларускіх журналістаў узбуджаюць крымінальныя справы. Урэшце, краіну загналі ў эканамічны і палітычны тупік», — гэта цытата са «Звароту ўдзельнікаў навукова-практычнай канферэнцыі «Купала й незалежнасць Беларусі» з далёкага 2002 года. А за два дзесяцігоддзі штосьці змянілася?

Аднак — тым не менш — Купала быў, ёсць і застанецца запарукай вечнасці і нашай мовы, і нашай свабоды, і нашай дзяржаўнасці. Як і запарукай паразы «ворагаў Беларушчыны» розных гатункаў ды ўзросту.

Бо Купалава Беларусь жыве!

***Алесь АКУЛІЧ***

*Артыкул Янкі Купалы «Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год» чытайце на старонцы 11*

# Васіль БЫКАЎ: «Адраджэнне — справа моладзі, а не пенсіянераў»

***5 мая 1993 года ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Мінску Беларускі ПЭН-цэнтр наладзіў вечар-сустрэчу з Васілём Быкавым. Фактычна, адбылася звыклая сустрэча чытачоў з пісьменнікам, на якой ён адказваў на пытанні прыхільнікаў сваёй творчасці, што паступалі ў пісьмовай форме і праз мікрафоны з залы, разважаў пра жыцце ўвогуле, дзяліўся сваімі поглядамі на стан і лёс літаратуры і мастацтва ў сучасных варунках.***

***«Як на споведзь...» — значылася ў запрашэнні на гэты вечар. І сапраўды, Быкаў адказваў на пытанні, гаварыў канкрэтна, сцісла, але ёмка і шчыра. Хоць, падкрэслім, пытанні на асабістую тэму «праходзілі» вельмі цяжка, пакуль зала ўрэшце не зразумела, што сваёй персонай пісьменнік апякуецца найменш. І, дарэчы, ён сам напачатку паўшчуваў вядучага вечара, прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна за празмерную гіпербалізацыю «апостальскай постаці» пісьменніка...***

***Пра што гаварыў Быкаў? Роскід пытанняў да пісьменніка быў самы шырокі (відаць, з-за разнастайнасці аўдыторыі: вучні, студэнты, навукоўцы, пенсіянеры і г. д.), ад «Якія сны вам сняцца найчасцей?» да «Ці былі калі камуністам і ці захавалі партыйны білет?»...***

***Адступаючы ад канкрэтных пытанняў, у рэмарках, пісьменнік выказаўся, між іншым, у абарону пісьменніцкай свабоды і грамадзянскай годнасці Святланы Алексіевіч; высока ацаніў чалавечыя якасці Зянона. Пазьняка; рэзка негатыўна выказаўся наконт «пэўнай пазіцыі» Беларускага тэлебачання...***

***Але ўсё-такі галоўнае, на маю думку, было на сустрэчы іншае: за апошнія колькі гадоў гэта адна з ПІСЬМЕННІЦКІХ сустрэч Быкава з грамадскасцю. Ён і сам гэта адзначыў, падкрэсліўшы, што выказваецца іменна як прыватная асоба, як мастак, літаратар, а не палітычны дзеяч. Чаго-чаго, а палітыкі ў Быкава апошнім часам не бракавала... І вось — як быццам нешта добра знаёмае, прыемнае, але прызабытае... Пісьменнік гаворыць не пра палітыку і «тых з гэтымі», а — пра ЖЫЦЦЁ ЎВОГУЛЕ, пра Яе Вялікасць Літаратуру, пра магчымасць мастацкага ўвасаблення нашага часу.***

***Сумаваўся чытач, літаратурна-мастацкая грамадскасць па такіх сустрэчах — гэта відавочна: у зале можна было бачыць скрозь работнікаў Інстытута літаратуры, выдавецтваў, рэдакцый, пісьменнікаў. Усё-такі адной палітыкай не жывы чалавек; мастацтва ў шырокім сэнсе, у тым ліку і самасвядомасць мастацтва і мастака, — застаецца духоўным апірышчам і выратавальнікам любога грамадства — і таталітарнага, і посттаталітарнага, і наогул... Быкаў у заключэнне і выказаў пажаданне чытачам не губляць сувязі з мастацтвам, нягледзячы ні на якія катаклізмы часу, заставацца вернымі высокай літаратуры. «Усё-такі цяперашні крызіс рана ці позна мінецца, і з новай сілаю ўзнікне патрэба высокага, духоўнага...».***

***Благаславёныя словы! А мы зазначым, што пакуль у грамадства, у Беларусі ёсць такія мастакі, што дбаюць пра непарыўнасць людской духоўнасці, звязваюць духоўнасць учарашнюю і будучую ў адно, — такое грамадства цалкам яшчэ не безнадзейнае...***

***Такім чынам — што гаварыў Васіль Быкаў...***

*Юрась ЗАЛОСКА*


Фота з архіва аўтара

### Пра логіку гісторыі, лёс культуры і долю чалавека

*(З уступнага слова)*

— У любой сістэме, ці то капіталістычнай, ці то сацыялістычнай, — заўсёды знойдзецца нейкі бок, які не на кшталт гэтай нацыі. Культура ў гэтыя гады, у час звароту на натуральны эканамічны і палітычны шлях, якім ідзе ўвесь свет, — наша нацыянальная культура апынулася ў становішчы страшэнна цяжкім. Тут можа суцяшаць хіба той факт, што ў цяжкім становішчы апынулася ўсё грамадства. І ў тым ёсць віна ўсяго грамадства. Цяпер ужо абсалютна відавочна, што ў тым, што адбылося, не вінаваты ні Гарбачоў, ні Віскулі, ні сучаснае кіраўніцтва, — вінаваты пэўны выбар, зроблены не намі, зроблены ў 1917 годзе. У 1917 годзе наша грамадства звярнула з магістральнага шляху грамадскага развіцця некуды ўбок і праз вялікія намаганні, праз кроў і ахвяры ўрэшце ўперлася ў тупік. Цяпер выйсці з гэтага тупіка шчаслівым шляхам, відаць, не ўдасца, гэта пэўна: усім нацыям, якія маюць дачыненне да Вялікага Кастрычніка, трэба прынесці нейкія ахвяры. Што мы і робім.

Мы можам выказваць прэтэнзіі да сучаснага кіраўніцтва, да тых, хто цяпер жыве, — але з тых, хто цяпер жыве, не вінаваты ніхто. Важна зразумець, што шлях быў памылковы, што ішлі мы не туды, што развіццё ішло абсалютна антычалавечым чынам і трэба выбірацца... Як выбірацца — гэта ўжо іншая справа. Хочацца, канешне, выбірацца, не вяртаючыся назад, нейкім чынам пераскочыць у іншы цягнік. Але, відаць, гэта не выйдзе.

Мы бачым разбурэнне культуры, духоўнасці, не кажучы ўжо пра эканоміку, якая не можа існаваць і не будзе існаваць — і наўрад ці яе можна паправіць нейкімі папраўкамі, кампрэсамі, доларавымі ін'екцыямі. Відаць, нічога не выйдзе. Тая эканоміка, што паказала сваю непаўнавартаснасць, павінна разбурыцца, і яна бурыцца, нягледзячы ні на якія захады. І толькі пасля яе разбурэння пачне прарастаць новая... Тая эканоміка, што існуе на Захадзе, можа даць чалавеку шмат што, калі не ўсё. Ну, усё, відаць, ні адно грамадства і ні адзін лад ніколі чалавеку не дадуць. Так ужо заведзена: чалавек застаецца нейкім чынам адзін на адзін з жыццём і — будзе цярпець...

А што культура? Мы стаім на тым, што культура павінна мець нацыянальную форму. Але ў сучасных варунках нацыянальная самабытнасць культуры з'яўляецца і яе моцным, і слабым месцам. Моцным у тым сэнсе, што гэта спрадвечнае; нацыянальнае, між іншым, гэта не тое, што дазволена або ўведзена дэкрэтам. Гэта, па-першае, біялагічнае, унаследаванае ад прыроды, дадзенае Богам... Тут не трэба, як гэта часам бывае, папракаць, што ў адных яно ў большай меры праяўляецца, у іншых — у меншай. Гэта ўжо як каму дадзена. Але гэта натуральнае пачуццё, такое самае, як пачуццё мацярынства, іншыя сакраментальныя пачуцці, закладзеныя ў чалавеку генетычным шляхам.

Адзіны спадзяванак цяпер — на тое, што нацыянальная культура неяк вытрымае, дзякуючы перш за ўсё свайму нацыянальнаму менталітэту. У беларусаў ёсць вопыт. Усё-такі, не маючы сваёй дзяржаўнасці на працягу стагоддзяў, намаганнямі мноства пакаленняў, і перш за ўсё апосталаў сваіх, беларусы захавалі сваю нацыянальную культуру. Былі перыяды, калі яна амаль зусім знікала. І тым не менш яна засталася. І таму, нават у сучасных умовах, мы ўсё-такі думаем, што яна яшчэ затрымаецца на нейкім краёчку і адновіць свой натуральны працэс адраджэння і росквіту...

### Пра літаратуру і палітыку

*(Пытанне: «О чём болит душа?»)*

— Душа ў пісьменніка баліць тым, чым і ў кожнага чалавека. Іншая справа, як літаратуры адносіцца да прыроды грамадства.

Цяпер, пасля празмернай ідэалагізацыі мастацтва і наогул культуры, што адбывалася на працягу многіх гадоў, наступіла іншая пара — дэідэалагізацыі. Мы слухаем па радыё і тэлебачанні, чытаем у газетах выступленні даволі разумных людзей, якія ўгаворваюць пісьменнікаў адысці ад палітыкі, перайсці на вечныя тэмы, на хараство прыроды, якая яшчэ захавалася, — на ўсё тое, што не звязана з палітыкай, з жыццём грамадства. Чытаць такія рэчы мне заўсёды сумна. Сумна, бо гэта — не для нашай літаратуры. Можа быць, на Захадзе, дзе сацыяльныя канфлікты невялікія, дзе чалавек дасягнуў многага — ну, калі не цалкам шчаслівага, дык хоць бы забяспечанага жыцця, — там палітызаваная літаратура патрэбна, можа быць, у меншай меры. Там літаратура можа дазволіць сабе захапляцца нейкімі драбніцамі жыцця, але каб у нас... Літаратура народа, які на працягу стагоддзяў вымушаны весці вось такое трагічнае жыццё, — як можа наша літаратура, мастацтва, культура — абстрагавацца ад гэтага пакутнага, трагічнага жыцця? Нават каб яна таго хацела, каб ставіла перад сабой такія мэты, — яны былі б немагчымымі для ажыццяўлення. ЖЫЦЦЁ БУДЗЕ ЎМЕШВАЦЦА, будзе ўладарна патрабаваць удзелу пісьменніка, мастака наогул — у грамадскім жыцці. Вядомыя радкі Някрасава з'яўляюцца ў гэтым сэнсе запаветам для пісьменніка. А ў выяўленчым мастацтве — як бы ні квітнела яно, выбраўшыся на свабоду, — усё-такі рэалістычнае мастацтва, перасоўнікі, для свайго часу і для гісторыі значаць куды як многа. І нашаму мастацтву самавыражэння, я думаю, далёка да гэтага...

А болі ўсё тыя ж, тыя самыя. І калі ўсё адбаліць — цяжка сказаць.

### Пра талент і грамадзянскую пазіцыю

*(Пытанне: «Як суаднесці талент з грамадзянскай дзейнасцю пісьменніка?)*

— Апроч таленту ёсць яшчэ і маё грамадзянскае сэрца. Калі я бачу, што ў жыцці адбываецца несправядлівасць, ці магу я абысціся толькі літаратурнымі здольнасцямі, без палітычных памкненняў?

Талент — вельмі важна для гісторыі мастацтва, але для мяне суб'ектыўна грамадзянская каштоўнасць чалавека пераўзыходзіць яго мастацкую каштоўнасць. Я гатовы дараваць пэўныя слабіны мастацка-літаратурнага сэнсу пісьменніку, калі ён праяўляецца як грамадзянін, як асоба, якая патрэбна нацыі ў грамадзянскім сэнсе. І наадварот, я не магу дараваць таленту, калі яго грамадзянская пазіцыя служыць рэакцыі і калі яна накіравана супраць грамадства і нацыі.

### Пра мастацтва як выказнік часу

*(Пытанне: «Чаму сённяшняе мастацтва, літаратура як бы адстаюць ад жыцця?»)*

— У савецкім мастацтве мастацкае слова значыла вельмі шмат, не таму, што было настолькі самацэнным для грамадства, а таму, што іншага маральнага выказніка ў нашым грамадстве не было. Літаратура і іншыя віды мастацтва былі адзіным, рэгламентаваным, няўдалым у многіх сэнсах маральным выказнікам. Гэтаму мастацтву не ўдалося зрабіць усё так, як хацелася. Але цяпер, калі вярнуцца назад і ацаніць тое мастацтва, то мы павінны проста зняць шапку перад гэтым мастацтвам, перад яго лепшымі творамі... Цяпер часы змяніліся. Рэнамэ мастацтва апускаецца ўсё ніжэй. Я баюся, калі зірнуць на заходняе грамадства, добраўпарадкаванае, дзе мастацтву такая роля, як у нас, ніколі не належала, то ўсё-такі хацелася б, каб наша мастацтва, наша літаратура нейкім чынам прадаўжалі свае традыцыі і ў новых умовах...

Вы бачыце, што цяпер мастацтва і літаратура быццам спыніліся на нейкім раздарожжы. Гэта адносіцца не толькі да нашай беларускай літаратуры. Гэта адносіцца да ўсёй літаратуры посткамуністычнага грамадства. Чаму так адбылося — я не магу вам адказаць. Прычыны тут, відаць, вельмі складаныя, унутраныя, тым не менш, гэта так. Гэта мы бачым на прыкладзе самай актыўнай расійскай літаратуры, нават на прыкладзе прыбалтыйскіх літаратур.

Відаць, тое, што адбылося, адбылося надта нечакана... Усё-такі мастацтва ў пэўнай ступені тугадум, і яно нешта зразумее толькі праз пэўны час. А тое, што яно зразумее і асэнсуе і што паявіцца вельмі значныя, шэкспіраўскага маштабу творы пра наш час, — гэта безумоўна, таму што такія страсці для мастацтва не могуць быць згублены, яны будуць рэалізаваныя; яны абавязкова будуць у нейкай форме субліміраваныя.

### Пра беларускую літаратуру

*(Пытанне: «Як бы вы ацанілі сучасны стан беларускай літаратуры; ці не зніжае крытыка — сваёй завышанай, неадэкватнай ацэнкай — узровень беларускай літаратуры?»)*

— Літаратура і мастацтва наогул — такая справа, дзе нейкай адэкватнасці альбо нават аб'ектыўнасці дасягнуць вельмі цяжка. Гэта, можа быць, немагчыма, бо ўсё-такі ацэнкай твора займаецца пэўная асоба — крытык.

Калі мець на ўвазе той гістарычны перыяд, які прайшло грамадства, дык уся культура таго грамадства падлягае пераацэнцы. І гэта цяпер робіцца. Таму што, сапраўды, толькі цяпер, можа, з'явілася магчымасць да нейкага новага прачытання. Гэта не значыць, што ўсе ацэнкі ранейшых крытыкаў былі несправядлівыя. Многа было справядлівага. Але былі і нейкія аднабаковасці; я думаю, што час усё ацэніць як трэба і расставіць усе кропкі...

У беларускай літаратуры ёсць вельмі здольныя, таленавітыя аўтары, можа, толькі не ўсе ацэнены так, як належыць.

### Пра дэтэктывы

*(Пытанне: «Вас не хвалюе, што большасць людзей чытае дэтэктывы і фантастыку?»)*

— Большасць чытае дэтэктывы? Я вам скажу, што яшчэ больш людзей есць улетку агуркі ці п'е гарэлку...

Дэтэктываў, фантастыкі, эратычнай і г. д. літаратуры баяцца не трэба. Няхай, калі ёсць пакупнікі, выдаўцы, калі яна дае прыбытак, — няхай. Але паралельна з гэтым будзе існаваць і высокая літаратура. Дэтэктывы і фантастыка — гэта літаратура не тое што другога, а — такая, якая яна ў нас ёсць, — гэта нават не літаратура... А тым не менш харошыя творы ў нас былі, ёсць, іх будуць пісаць. Чатыры сотні пісьменнікаў Беларусі абсалютна не патрэбны. Не патрэбна 400 раманаў за пяцігодку. Для таго, каб нацыя адчувала сябе нармальна, каб яна нармальна развівала сваю духоўнасць, патрэбна зусім не шмат добрых кніжак у год, але гэта сапраўды павінны быць вялікія кнігі.

### Пра маладых

*(Пытанне: «Вашыя спадзяванні на моладзь, на яе здольнасць адрадзіць нацыю?»)*

— Чалавек сталага ўзросту вельмі рызыкуе, калі выносіць нейкія ацэнкі моладзі: яны заўсёды будуць несправядлівыя. З антычных часоў моладзь прынята было лаяць, што яна «не такая», што яна кепская... Тым не менш чалавецтва развіваецца ў бок прагрэсу, значыць, кожнае новае пакаленне ў чымсьці, відаць, лепшае за папярэдніх, хоць тут магчымы розныя зігзагі, розныя пад'ёмы і спады...

Адраджэнне — увогуле справа моладзі, а не пенсіянераў. І ўдзельнічаць у ім, як і карыстацца плёнам культурнага адраджэння, — найперш моладзі. Пакуль жа яна ўдзельнічае ў гэтай справе, на мой погляд, не з такім вялікім імпэтам, як хацелася б.

Калі параўнаць літаратурны ўзровень сучасных маладых літаратараў з тым, які быў, калі мы ўваходзілі ў літаратуру, то, трэба сказаць, гэта больш здольныя людзі. Іншая справа, як будзе праходзіць далей іх развіццё, але яны падаюць надзеі...

# «Па крохкім срэбры ў неба»

## Да 65-годдзя з дня нараджэння Ігара ЖУКА

Альжбета КЕДА

***Ён не паспеў напісаць успаміны. Ні пра свой род, ні пра дзяцінства, юнацтва, ні пра Гарадзенскі ўніверсітэт, якому аддаў усё жыццё. Бо пайшоў вельмі рана, толькі пераступіўшы шасцідзесяцігадовую мяжу, не атрымаўшы вольнага часу ад штодзённае выкладчыцкае, навуковае працы, якая не пакідала вольнае хвіліны. І толькі аднойчы распавёў пра адну гісторыю з мінулага для гарадзенскага альманаха «Новы Замак». Але і яе дастаткова, каб зразумець, якім адметным пісьменніцкім талентам ён валодаў. Той успамін меў назву «Васіль Быкаў: з гісторыі аднаго непрыезду».***

Да кожнае свае працы, ці было гэта грунтоўнае навуковае даследаванне, ці зусім невялікі тэкст, як эсэ-згадка пра Васіля Быкава, Ігар Васільевіч ставіўся з вялікай адказнасцю, старанна падбіраў назву, прадумваў кампазіцыю.

Ужо ў назве выразна праступае нядзейсненае, тое, што не адбылося. Падавалася б, пра што пісаць, калі не адбылося. Але ён умеў і ў тым, нязздейсненым, знайсці сэнс. Мара, якая сплывае, якой не суджана збыцца. У гэтым асаблівы шарм, не пазбаўлены суму, балесны, бо гэта, наогул, наш беларускі лёс — чакаць, ды не прычакаць. Не таму, што не працавалі, каб здзейснілася, не рыхтавалі, каб адбылося, не таму, што нявартыя. А таму, што не лёс. І трэба расказаць, хто шчыраваў, хто працаваў, як усё было і чаму не адбылося.

Напачатку адчуем чытацкую асалоду ад паэтычнага зачыну, вытрыманага ў лепшых традыцыях класічнай літаратуры: «У бязважкай паветранай высі — сярэбраная нітачка, жаўручок. Нітачка віецца, журліва свідруе паднебную глыбіню, як запрашае: хадзі, ну хадзі сюды. І я не стрымліваюся — асцярожна ступаю па гэтым крохкім срэбры ў неба. У неба сваёй памяці, каб вызваліць адну гісторыю, якая засталася няспраўджанай задумаю». Гэты пачатак выступае не толькі ў якасці прыгожага лірычнага адступлення, тут праступае зачынны момант, першы штрых да згадкі пра мінулае, яшчэ цьмянае, незразумелае, невыразнае, але як жа настойліва просіцца яно з даўняга, каб не згубіцца, не стаць нябытам. Аўтар мусіць падпарадкавацца гэтаму пакліканню памяці, каб давесці, данесці, распавесці. І запрасіць чытача на той шлях — па крохкім срэбры ў неба.

Першы вобраз, у якім сугучча зрокавага і слыхавога, — жаўрук. Чаму жаўручок, як пяшчотна называе птаха аўтар? Бо першым зазвінеў у праясненым небе, вітаючы вясну, маладую, жаданую, што была ж! Бо гэта ён рассыпаў па небе крохкае срэбра, праклаўшы шлях у недасяжныя вышыні. Бо гэта ён нагадаў пра даўняе, нязбытнае. У гэты вобраз аўтар укладае сімвалічны сэнс: «Цяпер я ведаю пэўна: учарашняе, былое — жаўручок…». Зрэшты, першапачаткам для аповеду сталі цалкам матэрыяльныя адзнакі памяці — аўтографы Быкава. Гэта яны не давалі спакою, патрабавалі напоўніць сэнсамі тое, што было вакол, што стварала прастору дзеяў, мараў, настрояў. Гэтую няпростую задачу пісьменнік сціпла акрэслівае як спробу, да якое падступаўся неаднойчы: «І вось я каторы год спрабую злучыць распушчаныя канцы клубка: узіраюся ў тры быкаўскія аўтографы — два лісты і навагоднюю віншавальную паштоўку — з далёкіх ужо сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, а згадкі пушыстымі шаўковымі спінкамі настойліва прыхінаюцца да шчакі».


Ігар Жук і Альжбета Кеда

Тры аўтографы, з якіх пачалося, і тры вобразы, якія пройдуць праз тэкст успамінаў: вялікага пісьменніка і шчырых працаўнікоў на ніве асветы, беларускіх настаўнікаў Васіля Пятровіча Жука і Міколы Арсеневіча Пашкевіча. І сімволіка лічбаў, трыяда, не абыдзена аўтарам, яна закранула і яго самога, відаць, не ў апошнюю чаргу стаўшы прычынаю, штуршком да галоўнага ў жыцці шляху філолага, літаратуразнаўцы: «Тры аўтографы…, як тры невядомыя і нерасказаныя імгненні жыцця пісьменніка Васіля Быкава, тры старонкі біяграфіі майго бацькі Жука Васіля Пятровіча ды тры крокі маіх асабістых уваходжанняў у тэкст быкаўскага прысвячэння аповесці «Абеліск» — наогул адзінага прысвячэння ў творчай практыцы пісьменніка — незвычайна светламу чалавеку Міколу Арсеневічу Пашкевічу».

Каб пра ўсё гэта распавесці, патрэбна пачаць з пачатку, з экспазіцыі — увесці ў той свет, у тагачаснае жыццё мястэчка, архітэктурная дамінанта якога, вядома ж, знакаміты будслаўскі касцёл. Непадалёк ад яго, праз кляновы парк, была хата настаўніка. Тут упершыню пісьменнік дае прастору гумару. А ён у Ігара Жука адначасна і дасціпны, і далікатны, мяккі, светлы. Ці выстройвае ён праўдзівы «фронт» гандлёвых пабудоў, ці апавядае пра наступствы штотыднёвых суботніх боек мясцовых кавалераў, пасля якіх «ледзь не кожны панядзелак местачковы сталяр рупліва латаў зеўры парканавых прагалінаў у плоце». А ў самым цэнтры, побач з хатай, аўтобусны прыпынак. Запозненыя пасажыры, часта не маючы магчымасці ехаць далей, ішлі на агеньчык іхняе хаты, які свяціўся, бо настаўнік дапазна сядзеў за сталом, правяраючы вучнёўскія сшыткі. І тады чуваць ужо звыклы стук у дзверы. Вось як раскручваецца нітка ўспамінаў. Кароткія накіды, штрыхі да патрэта героя, якія шмат гавораць пра яго характар, працавітасць, адданасць настаўніцкай працы, гасціннасць.

Такая цалкам літаратурная завязка — стук у дзверы. Той памятны стук, «дробненькі, прабачлівы, не стаў вялікай нечаканасцю», бо з'яўляўся гэты госць даволі часта. Затое нечаканыя паводзіны таго, хто за дзвярыма. А там блізкі сябра Васіля Жука, ягоны калега па сваткаўскай школе Мікола Пашкевіч, заўсёды жаданы, бо прыносіць ён у хату сябра дабрыню, шчырасць, бо аб'яднаныя яны адною вялікаю справаю — служэнню беларушчыне, бо разам рыхтуюць, праводзяць цікавыя сустрэчы школьнікаў, ды і ўсіх местачкоўцаў, з вядомымі асобамі, творцамі. Але ж вяртаемся да завязкі — стук у дзверы. Гаспадар, неспадзеўкі адарваўшыся ад абавязковае настаўніцкае працы, яшчэ не здольны пераключыцца на іншую хвалю, зразумець, хто ж гэта прыйшоў і не заходзіць. Затое гаспадыня адразу скеміла, адчула. Ігар Жук не прамінае выпадку, каб выказаць глыбокую павагу да жанчыны, шанаванне яе душэўнай чуйнасці, зоркасці, сардэчнасці, што было характэрна яму ў высокай ступені: «Што ні кажы, а жанчыны, мабыць, маюць здольнасць матэрыю бачыць наскрозь — сэрцам бачыць».

Аўтар падкрэслівае самую вызначальную рысу ў вобліку героя — ягоную светланоснасць. Недарэмна ж гэта адзначана і Васілём Быкавым у прысвячэнні да «Абеліску». З'яўленне героя з позневечаровае цемры ўрачыстае, як праўдзівае прышэсце святла, і адначасна такое свойскае: «Дзверы расчыняюцца, і ў цёмным вечаровым праёме свеціцца на ўсю шырыню двух радоў роўненькіх, як падагнаных адзін да аднаго зубоў, прыязная ўсмешка Міколы Пашкевіча», ад якое святлее ў хаце, ад якое святлее бацькаў твар.

І вось ужо сюжэтнае дзеянне распачынае свой рух: размовы, абмеркаванні, развагі, спадзевы, што будзе-такі ажыццёўлены іх «супольны і самы запаветны творчы праект пад назваю «Быкаў». «Пісьменнік быў заўсёды прысутны сваёю творчасцю, аўтарытэтам мастацкае глыбіні і праўдзівасці ў хаце настаўніка, дзе існаваў праўдзівы «маральны культ Быкава»…

Ну вось, падаецца, з усімі пазнаёміў, можна звяртацца непасрэдна да быкаўскіх аўтографаў. Напачатку быў зварот «Шаноўны Васіль Пятровіч!». Але перш, чым чытаць далей, трэба патлумачыць, чаму так неафіцыйна. Бо «ўзаемнае знаёмства іх, цёплае і прыязнае, трывала ўжо нямала часу». Калі нямала, то адкуль, калі дакладна пачалося? Са Сваткаўскай школы. Ізноў патрэбна адхіліцца ад галоўнае лініі сюжэту, каб распавесці пра Сваткі, вёску «з дзіўнай — з аднachасовым прысмакам першароднай цнатлівасці і здаровага жартоўнага вясельнага дзейства — назвай». І пра педагагічны калектыў, які быў не толькі «крэпкім, а галоўнае — надта інтэлігентным, з моцнай схільнасцю да гуманітарнага выхавання». І не дзіва: зямля тут такая, тут узгадаваны сам Максім Танк, Радзіма якога Пількаўшчына, адкуль да Сватак «усяго нічога: нават камарык перамерае і не стоміцца». Так напаўняе аўтар духоўную прастору (вядомымі імёнамі, назвамі, вобразамі (нарачанскія сосны)), праз тое пашырае яе, звязвае ўсе ніткі ў адзіны клубок, каб нішто не страцілася.

А ў калектыве зайздросна творчым хто самы таленавіты, «прыгожы і жыццялюбны, такі няўрымслівы і дзейсны» — Мікола Арсеневіч Пашкевіч! Хай сабе адно і застаўся ён «шкрабам», бо не імкнуўся ні да званняў, ні да кар'еры, бо згарэў вельмі рана, ды след пакінуў які яшчэ светлы.

Вобраз Міколы Пашкевіча свядома рамантызуецца, ідэалізуецца аўтарам. Ігар Жук дыскутуе з адсутным апанентам-скептыкам, даводзячы слушнасць такога падыходу, апелюючы да чагосьці больш значнага, чым практычнае, важкае, што можна разгледзець і пакратаць: «Хто сказаў, што рамантычная праўда — гэта не зусім праўда, што гэта недарэчны і непрактычны каляровы падман? Не так яно задумана Сусветам. Усё ж гэта праўда, ды яшчэ якая — узвышаная, спапаляльная, гарачая. Як ад бліску znічкі, што толькі-толькі асляпляльна прамільгнула ў касмічнай цемені і тым разарвала яе непрабудную нерухомую застылласць. І цэлы космас, ужо зыначаны і ператвораны сляпучым росчыркам, вымушаны глядзець на тую вогненную знічку, дзівячыся яе смелай панадрацыянальнай самаахвярнасці. Космас яшчэ доўга будзе трымцець і вагацца сваёй беспаветранай цёмнай глыбай і застываць няспешна, марудна, спакваля — у чаканні новага агністага следу». Так, гэта Багдановічава паэтычная хваля кранула сваім усплескам роздум гарадзенскага творцы пра вечнае і імгненнае, пра жыццё і смерць. Бо жыць у Гародні і быць незалежным ад святла ягонае зоркі немагчыма. Адноўленыя, наноў пераасэнсаваныя вобразы нашаніўскага класіка тут цалкам дарэчы: далей прачытаем мы надпіс на помніку сваткаўскага настаўніка, дасланы Васілём Жуком Васілю Быкаву:

*Мікола Арсеневіч*
*Пашкевіч*
*1936 — 1972*
*Светлы след будзе вечна жывы…*

Вяртаемся да роздуму Ігара Жука. Жыць у літаратурнай прасторы ў значнай ступені больш, чым у штодзённасці, гэта адчуваць не толькі святло запаленых знічак, не толькі раскашаваць, сузіраючы іх красу і светласць, але і прадбачыць іх асляпляльны, няўмольны шлях у бездань. Калі патрабуюцца ахвяры, калі застаецца папялішча. Аўтар вядзе свой роздум далей, шырэй, глыбей — у гісторыю беларускай духоўнай культуры, якая «не вельмі раскашуе выпадкамі шчаслівага завяршэння чалавечага лёсу. Хутчэй наадварот, беларуская ідэя надта ахвярапатрабавальная, пабудаваная часцей на ахвярадайнасці, чым на чаканай удзячнасці ад нашчадка». Апавядаючы пра такі ж перарваны на ўзлёце лёс Міколы Пашкевіча, Ігар Жук мае на ўвазе тысячы, тысячы прынесеных на алтар беларушчыны жыццяў.

Тры быкаўскія аўтографы, вакол якіх круціцца дзейства, выглядаюць, на першы погляд, вельмі сціпла: некалькі сказаў пра прыезд-непрыезд, у апошнім пра адклад, які, як вядома, не йдзе ў лад, на нейкае няпэўнае «калі-небудзь у другі раз». Але гэта толькі на першы погляд. Бо разумеў Васіль Пятровіч, як моцна заняты пісьменнік, як няпроста вырвацца. А за кароткімі фразамі выразна прасочвалася глыбокая павага да працы настаўніка, сяброўская прыязнасць і шчырае шкадаванне, што ў тым маі прыехаць ну ніяк немагчыма.

Трэці ліст Быкава завяршае сюжэт непрыезду. Але ж прастора яшчэ не запоўнена цалкам. Бо калі шлях быў прадвызначаны, ён мусіць быць пройдзены. На пярэдні план выходзіць аўтар, каб паяднаць на тым шляху сваіх герояў. Відаць, гэта адзінае, што напісаў Ігар Жук пра Гародню. Зноў адыходзіць непасрэдна ад тэмы, каб была яна асэнсавана яшчэ глыбей, каб адчута была пранікнёна-інтымная сувязь з горадам, які стаў лёсам. Нагадаўшы старажытную легенду пра развітанне закаханых, калі дзяўчына папрасіла юнака прыхінуцца да скалы, каб абмаляваць ягоны контур, аўтар праецыруе гэта на судакрананне са сваімі знакамі роднасці: «Мы і насамрэч часта прытуляемся да скалы сваёй памяці, адшукваючы надта значныя біяграфічныя крэскі-рыскі жыццёвай прасторы. І чым цяжэй на душы і чым далей крочым у жыцці, тым бліжэй хочацца быць да «малюнка» з так дарагім і блізкім контурам».

А далей у жыцці, да самага апошняга моманту дадзена яму было прайсці па Гародні, места, якое ніколі не пакіне абыякавым чалавека, што мае сэрца. Чуйнае да ўсяго прыгожага, здольнае адклікацца на радаснае і балючае, высокае і светлае, сэрца Ігара Жука было аддадзена Гародні. Тут ён ішоў па слядах тых, хто склаў гонар горада. І па слядах Васіля Быкава, зразумела ж, у першую чаргу: «Вось і я прыхінаюся да Гародні як да сваёй «скалы». Часта падлоўліваю сябе на думцы: Гродна — скрозь быкаўскае места. І ў гарадскі воблік узіраюся прысутнасцю Васіля Быкава: вось тут ён бываў, вось гэта ён бачыў, старыя гродзенскія клёны яшчэ чуюць рэха яго крокаў, а стромкія нёманскія берагі памятаюць бег яго шпаркай маторнай лодкі». Вось як — на ўвесь прасцяг — расплываюцца вектары яго духоўнга зроку. І ўвысь таксама! Бо там родная птаха, якая гэтым разам нагадвае пра Васіля Быкава: «І недзе ў высокім бялёса-бясхмарным паднеб'і яго жаўрук няўпынна снуе так знаёмую срэбную нітачку вітальнай песні. Дый паветра тут настоена на значнасці яго асобы. І на прыватным прызнанні Быкава, чутым у прыгожым і незлапомным дзяцінстве. Здаецца, усё ад таго ж Міколы Пашкевіча: той, хто ў Гародні не бываў, чагосьці беларускага не зразумеў і ў душу не прапусціў».

І ўрэшце, пра ўсё ж ажыццёўлены той шлях: Гародня — Будслаў. Шматкроць ажыццёўлены ім, сынам беларускага настаўніка Васіля Жука, які чакаў з Гародні Васіля Быкава: «І калі еду дадому, у Будслаў, я нібыта еду акурат тым шляхам, якім не спраўдзілася прайсці Васілю Быкаву. Тут самая даступная і самая зручная дарога, якая злучае мае дзве беларускія «скалы»: бацькоўскую, будслаўскую, і духоўную, гродзенскую. Па гэтым шляху несупынна вандруюць са мной і ўспаміны-згадкі — як запозненае далучэнне да лёсу адной нязздейсненай гарадзенска-будслаўскай гісторыі… А зараз я еду па ёй. Ад Быкава еду да Быкава».

…Бязмежны мой смутак, што нязздейсненымі засталіся кнігі памяці Ігара Жука. Таму, што не лёс.

# Падарожжа для закаханых



Галіна ЛЮМАРАВА

*І ты загадай сынам Ізраіля, і яны даставяць табе чысты аліўкавы алей, выціснуты з маслін, для асвячэння — каб узносіць свячу.*

У Задзвінне прыйшла яўрэйская субота. Заўсёды такая жаданая, звычайная, здавалася б, у чарадзе іншых субот і кожны раз асаблівая і неспадзяваная ў сваім абліччы. Ледзь паспела развіднець у пятніцу, а па Пакроўскай ужо плыў водар рошчыны, замешанай на тонкай пшанічнай муцэ і сланечнікавым алеі. Гэты пах прыемна казытаў ноздры прадчуваннем свята для тых, хто ўжо паспеў прачнуцца, а спаўшым навяваў салодкія світанкавыя сны.

Сяляне з навакольных вёсак з самага ранку пацягнуліся на кірмаш са сваімі прыпасамі. Чаго толькі не было на прылаўках! Плёскалі хвастамі і хапалі шчэлепамі паветра толькі што выцягнутыя з рэчкі шчупакі. Іх вільготныя бакі адлівалі змрокам глыбокіх заток, у якіх сонечныя промні, прабіўшыся праз тоўшчу вады, разбіваюцца на жмені залатых манет. Гагаталі мажныя гусі, кудахталі куры, гандляры зазывалі купляць менавіта ў іх, расхвальваючы свой тавар хто як умеў. І цыбуля ў кожнага самая залатая, бурачок самы чырвоны і салодкі, а кроп самы свежы!

Яўрэі-крамнікі павыцягвалі тавар на вуліцу. Адчыніўшы вялікія дзежкі, яны падымалі за хвасты велізарных салёных селядцоў, з носу якіх капаў чысты тлушч! Пераліваўся на сонцы залацісты канапляны алей, ад мядовых сотаў духмянымі хвалямі разыходзіўся водар лугавога квіцення. Уся гэтая раскоша крычала, заклікала: «Купляй, купляй!»

Аднак гандаль не пачынаўся. Яўрэйскія гаспадыні, прыйшоўшы на закуп прадуктаў да святочнага стала, з пагардай адварочваліся, пачуўшы ад гандляроў цану. Гандляры, у сваю чаргу, таксама не хацелі размаўляць з такімі нікчэмнымі пакупніцамі. Гэтае супрацьстаянне доўжылася даволі працяглы час; сонца паднялося ўжо высока, калі адзін з бакоў не вытрымаў і нарэшце «здаўся». Бо свой інтарэс быў у кожнага з іх: адзін хацеў распрадацца, а другі — паспець прыгатавацца да суботы. Раптам усё заварушылася, зрушылася з месца, закруцілася, і гэты вясёлы гармідар скончыўся вельмі хутка. Толькі не для яўрэйскіх гаспадынь! Колькі ім яшчэ трэ было папрацаваць, каб сям'я магла сустрэць суботу належным чынам!

Гэта кожны дзень тыдня можна есці посны суп ці бацвінне, простую кашу і запіваць малаком. Суботняя ежа павінна прыносіць чалавеку радасць і задавальненне, а таму яе прыгатаванне — асаблівы рытуал, сакральнае дзеянне! Узяць, напрыклад, хоць таго самага шчупака, якога фаршыруюць яўрэйскія жанчыны. Нідзе вы не пакаштуеце такога смакоцця! Па асабліваму рэцэпту, з выкарыстаннем патаемных сакрэтаў, якія перадаюцца ў спадчыну ад маці да дачкі, гатуецца гэтая страва. Нават калі вам пашчасціць выведаць гэты рэцэпт, у вас не атрымаецца нічога, падобнага да яўрэйскага фаршыраванага шчупака! Бо трэ быць яўрэйскай жанчынай, выхаванай у духу бязмежнай адданасці сям'і і прыхільнасці каштоўнасцям яўрэйства, каб паспець прыгатаваць столькі смачнай ежы на сённяшні і заўтрашні дзень. Заўтра нельга будзе вады са студні прынесці, не кажучы ўжо пра тое, каб запаліць агонь! Божа барані! Усё павінна быць прыгатавана сёння да заходу сонца! І гэта будзе зроблена абавязкова, нягледзячы ні на што. З самага маленства яўрэйскую дзяўчынку рыхтуюць да ролі вернай жонкі, адданай маці і сапраўднай гаспадыні дома. Сціпла і непрыкметна вядзе яна сваю спрадвечную начную справу, з'яўляючыся тым стрыжнем, на якім трымаецца спакой яўрэйскага дома. Аднак яна ў адзін момант ператвараецца ў раз'юшаную львіцу, варта толькі небяспецы наблізіцца да ейнага ганка! Гора таму, хто асмеліцца стаць на яе шляху! Усе перашкоды знішчыць, свет пераверне дагары нагамі, а мір і шчасце сям'і зберажэ...

Сонца яшчэ толькі-толькі завалілася за другую спічастую вежу касцёла святой Барбары, а ўжо ўсё гатова да свята! Пакладзены на чысты абрус і пакрыты святочнай сурвэткай суботнія румяныя хлябы. У залацістым сцюдні застылі апетытныя кавалкі шчупака, упрыгожаныя шасцікутнічкамі морквы. Прэе ў печы жоўта-ружовы цымас. Прыгожымі шасцікутнымі зоркамі выкладзены на талерках паштэты. У дадатак яны прысыпаны расцярушаным жаўтком, што прыдае ім на рэдкасць вабны від. Заканчваючы апошнія прыгатаванні, гаспадыні запальваюць свечы, мужчыны адпраўляюцца на вячэрняе багаслужэнне. «Царыца» ўступіла ў свае правы.

Добрай суботы, людзі! Радуйцеся свабодзе, спакою, збавенню ад цяжкай працы. Гэты дзень дадзены вам дзеля таго, каб падняць вочы ад паўсядзённага клопату і ўгледзецца ў неба! Каб узнесці ўдзячнасць таму, хто падараваў вам вялікую каштоўнасць яўрэйскага жыцця — суботу.

Калі прыпынены ўсялякія дзеянні, чужыя натуральнаму парадку рэчаў, з асаблівай выразнасцю праступае прысутнасць боскай існасці ў нашым свеце. Трапеча душа, знямеўшы ад усведамлення бясконцай дасканаласці ўсявышняга, стварыўшага свет, і самі па сабе родзяцца малітвы таму, хто над усім.

Наперадзе цэлы дзень спакою, адпачынку, шчасця! Можна спяваць, весяліцца, гуляць у розныя гульні, чытаць святую кнігу, а можна проста ляжаць у куту сада пад старой яблыняй і, назіраючы за павольным рухам белых пушыстых аблокаў у небе, марыць, марыць...



Марк Шагал. Над горадам

Адна толькі душа не можа знайсці спакою. Гэта душа Марка. Чаму ён не можа знайсці сабе месца, куды імкнецца, чаго хоча? Пакінуўшы бацькоўскую хату, куды ён імчыцца, нягледзячы на ўсе забароны суботняга дня? Не спяшайцеся яго судзіць! Закаханыя існуюць у іншым свеце! Там не дзейнічаюць законы нашага свету, фізічныя законы. Там няма звыклай прасторы, існуючай у трох вымярэннях, часу як меры змен, чалавечай асобы як акрэсленай індывідуальнасці. І ўсе спробы апісаць гэты свет і тое, што ў ім адбываецца, непазбежна натыкаюцца на абмежаваныя магчымасці нашых органаў успрымання — любая сістэма вобразаў фізічнай рэальнасці аказваецца неадпаведнай. Таму ляцяць на ягоных карцінах козы, дзяды з кійкамі і крылатыя немаўляты, хоць так быццам і не бывае. Таму ён тут, каля знаёмага дома на Смаленскай, бо субота без Бэлы не можа быць шчаслівай, як яна павінна быць. Немагчыма сказаць: ляцеў ён, ці бег, проста ён хацеў тут быць, і ён тут.

Яна ўжо чакае яго, выглядваючы з акна. Убачыўшы на павароце знаёмую постаць, лёгка збягае па высокіх прыступках на вуліцу, і вось яны разам. З гэтага моманту ён бачыць толькі яе, а яна яго. Ён ловіць поглядам кожны рух — ці то зграбнае нахіленне мілай галоўкі, ці ўсмешку, звернутую да яго, ці ўзмах тонкай рукі. Узяўшыся за рукі, яны ідуць па вуліцы да кірмаша і далей па Граэнай, налева ўніз, да скрыжавання з Трэцяй лініяй. З зайздрасцю глядзіць услед гэтай прыгожай пары стары пескавацінскі рэзнік Шлёма, паклаўшы напрацаваныя за ўчарашні дзень рукі на веснічкі. Як хутка ляціць час і знікае маладосць! Здаецца, яшчэ ўчора сам быў гэткім жа маладым і прыгожым, а сёння ўжо ўсёй істотай адчувае цяжар пражытых гадоў. Дзве суседкі, што выйшлі пасядзець на лаўцы, з вялікім задавальненнем пачынаюць абгаворваць сучасную моладзь, якая перастала шанаваць старэйшых і нават у суботу нясецца некуды на злом галавы.

Дзіўныя людзі! Яны не ведаюць, што свет закаханых — гэта свет анёлаў! Не спатыкнецца маленькая ножка ў французскім пантофліку аб камені брукаванкі Смаленскай і не ўвязне ў зыбучым пяску Трэцяй лініі, таму што яе ахоўвае анёл, якога стварыла каханне.

Праз імгненне Марк і Бэла ўжо на высокіх пагорках. Ён хоча паказаць ёй горад, які малюе. І як не асвяціць суботу з каханай келіхам віна!

«Блаславен ты, госпад, Бог наш, валадар сусвету, што стварыў плод вінаграднай лазы!»

Келіх, пераходзячы з рук у рукі, цудоўным чынам ператварае наваколле ў чароўны свет. Якая незвычайная асалода — адпіць з таго краечку, які беражэ дотык каханых вуснаў! Вялікай каштоўнасцю неймаверна тонкай працы ляжыць перад імі горад. Яны пазнаюць знаёмыя вуліцы, цэрквы, сінагогі, такія маленькія цяпер, зусім лялечныя! Вунь там яны жывуць, а там некалі вучылася яна, а там будынак мастацкай школы! Усё знаёмае, блізкае, роднае. Хочацца ўзяць усё гэта ў абдымкі і прыцісну́ць да грудзей.

Шырока раскінуўшы рукі, Бэла так імкліва ляціць з пагорка, што Марк ледзь паспявае падхапіць яе. На нейкае імгненне яму здаецца, быццам яна птушкай узлятае ў неба і ляціць над горадам! Гэты прывід урэзваецца ў сэрца назаўсёды. Так і ляцяць з тае пары над нашым горадам Бэла, каханая Марка, сімвал вечнага кахання...

Амаль сто гадоў мінула з таго часу! Даўно няма тых людзей і таго горада. Трагічны лёс наклаў свой адбітак на ягонае аблічча: зніклі велічныя будынкі храмаў, змяніліся назвы вуліц, брукаваныя і пясчаныя дарогі заслаў асфальт. Аднак як на старым, пакрытым зморшчынамі твары чалавека няўлоўна праступаюць рысы таго, кім ён быў у маладосці, так і абрыс горада, ягоны дух, застаецца ранейшым. Кожны, хто хоча, можа пабачыць яго. Гэта вельмі проста: ісці ў канец Трэцяй лініі; яе назва не змянілася. Вуліца ўпіраецца сёння ў яўрэйскія могілкі, якія вельмі разрасліся з тых часоў. Можна гадзінамі блукаць сярод старых пахаванняў, дзівіцца на незвычайныя формы магільных помнікаў, углядвацца ў таямнічыя знакі старажытнага алфавіта. Пад дзівоснымі помнікамі ў выглядзе разгорнутай кнігі з тымі ж самымі таямнічымі літарамі ці ў выглядзе абсечанага камля дрэва пакоіцца прах людзей, што жылі некалі ў нашым горадзе, былі ягонай неад'емнай часткай, радаваліся і гаравалі, кахалі і ненавідзелі. Бярозы і клёны няспынна шапочуць памінальную малітву — кадыш — тым, хто знайшоў тут вечны спакой.

Калі вы збочыце крыху ўправа ад могілак, то адразу апынецеся на тых самых узгорках. Нават козы, нашчадкі тых коз, што маляваў Марк, па-ранейшаму пасвяцца тут. Падыміцеся наверх, і вы ўбачыце горад Бэлы і Марка, наш горад! Толькі з гэтага месца можна ўбачыць усё менавіта так. Горад ляжыць перад вамі як жывая істота, прыгожая і быццам абыякавая да ўсяго, што па-за ёй, існуючая па сваіх складаных законах. Угледзеўшыся ў яго з вышыні, вы адчуеце нейкую ўнутраную сувязь паміж сабой, горадам, падзеямі, што даўно адышлі ў мінулае, адчуеце сябе часцінкай цэлага, але не той цэрушынкай, што матляецца па свеце і пераносіцца ўсімі бурамі. Не! Вы адчуеце сябе адзінай часцінкай сусвету, якая надзелена свабодай волі, а таму можа дзейнічаць супраць фізічных законаў.

Вы раскідваеце рукі і ляціце...

# Незакончанае трыванне



Анатоль ІВАШЧАНКА

## 41-е лета

*Расці, барада, расці...*
*БГ*

*Пракрочвае міма мяне*
*сорак першае лета.*
*З-за плоту даносяцца спевы*
*безгалосых манкуртаў.*
*І вось мае крылы і воск,*
*а вось мая клетка.*
*Пад спеў гэты курчацца рэшткі*
*Летава, Цоя і Курта.*

*Гадую сваю бараду-бараду-бара-*
*ду ад дубару,*
*рудую сваю бараду*
*гадую.*
*Струну нацягну,*
*выйду з ступару і*
*прарасту сярод флуду.*
*Збудую сцяну,*
*дацягнуся да тых,*
*хто ў вежы жыве і не ве-*
*дае гэтага бруду.*

*Крочаць-крочаць паўз мае сны*
*партызанкі вясны*
*прадвесцем вайны.*
*Крочаць сляпыя кентаўры з гітарамі,*
*рок-дыназаўры. Прабоіны ў аўры.*
*Хочуць сурочыць,*
*сусед караочыць,*
*як тут пераночыць*
*да заўтра?!*
*Вось мае крылы і воск,*
*малітва і вось –*
*пагарда.*

*Гадую...*

## Пяшчота

*Ахіне*
*ад любое бяды,*
*абароніць,*
*суцешыць,*
*загоіць.*
*Праз заслоны,*
*Замкі,*
*праз глухія муры*
*даляціць яе шэпт,*
*яе голас.*

*Уратуе,*
*схавае,*
*закрые сабой,*
*захіне у абдоймы,*
*атуліць*
*сваіх дзетак-каточкаў*
*самотнай парой.*
*Залатая.*
*Святая.*
*Матуля.*

***

*А дзесьці па вуліцах ходзяць звяры.*

*Сядаюць у транспарт,*
*стаяць у корках,*
*мочацца ў грамадскіх прыбіральнях,*
*заходзяць у кавярні,*
*забіраюць дзетак з садкоў...*

*Мы верым:*
*звяроў чакае суд.*
*Мы ведаем:*
*іх чакае люстрацыя.*
*Прынамсі, нябесная.*
*Нябесная – дакладна.*

*Ведаем. Верым.*
*Чакаем.*

***

*Хочуць яны, каб мы з'ехалі ўсе.*
*І засталася голая выспа.*
*Вось зажывуць тады ў шчасці й красе!*
*Без экстрэмізьму ды катаклізьмаў.*

*Будуць араць, будаваць, праслаўляць*
*лад свой сьвяшчэнны, адзіна праўдзівы.*
*Без бчбесаў ды змагар'я,*
*only hardcore, толькі жоўтыя слівы.*

*Эх, пабудуюць, засеюць, праславяць*
*хлопцы-красаўцы, хлопцы-малойцы.*
*Эх, зажывуць! Эх, заспяваюць!*
*Будзем глядзець з-за бугра*
*і зайздросціць.*

## Незакончанае трыванне

*Трываем.*
*І ў трыванні гэтым мы адзіныя.*
*Трываем*
*бацькоў, выхавацелек-*
*настаўнікаў-прэпадаў,*
*начальнічкаў-самадураў,*
*мужоў і жонак...*
*Хацеў быў дадаць «і сябе»,*
*але не буду, падрэ.*
*Трываем,*
*і трыванне нашае ахвярнае.*
*Верым,*
*што цярплівасць і пакорлівасць сёння*
*падораць нам супакой у далейшым.*
*І чым болей трываем,*
*тым болей кішачак сваіх*
*накручваем на кола сансары.*
*У выніку Шэрлак*
*так і не кідае паліць,*
*а мы без паяльніка ў дупе*
*ўжо не можам.*

***

*згубленыя ключы*
*калі?*
*сэрца-ківач*
*сэрца-вязніца*
*людзі чужыя*
*як ты чужы*
*сніцца*
*паэт-чужаніца*

*страты*
*паразы*
*па-за і па-над*
*разам*
*святар і бажніца*
*вязень і блазан*
*бывай*
*вартавы*
*разам*
*званар і званіца*
*...*

***26 жніўня 2021***

***

***палонным***

*не зламаныя і не зломленыя*
*як бы нелюдзі ні люцелі*
*вашы нары і хаты намоленыя*
*вашы шнары стыгматы на целе*

*спатыкнецца голас аб вырак ды*
*у паглядах не будзе жаху*

*не пабачаць спагады вырадкі*
*калі іх павядуць на плаху*

***

*У менскім гатэлі «Мінск» –*
*шырачэзныя лесвічныя пралёты.*
*Вось цікава,*
*ці прыходзіла ў галаву таму,*
*хто вынайшаў выраз*
*«лесвічны пралёт»,*
*асацыяцыя з апошнім*
*палётам паэта?*
*Таксама цікава,*
*ці прыходзіла ў галаву*
*адказнага*
*за грамадскую бяспеку*
*менскага гатэля «Мінск»*
*аналогія з маскоўскім*
*гатэлем «Масква»,*
*калі ён развешваў сеткі-гамакі*
*між лесвічнымі пралётамі?..*
*Менскі гатэль «Мінск» –*
*ідэальнае месца*
*для правядзення*
*паэтычных фестываляў.*

***14.02.2020***

***

*неда-*
*сканалы*
*верш*

***

*горад замазаных сцен*
*горад забаненых слоў*
*горад замкнёных вачэй*
*горад зашытых ратоў*
*горад замазаных слоў*
*горад замкнёных ратоў*
*горад забаненых сцен*
*ты не чакай*
*перамен*

***

***Ірэне Ганецкай***

*Перахрысці канверт,*
*перахрысці скрыню.*
*Ён даляціць, павер,*
*не прападзе, не згіне.*

*Нават калі слата*
*зноў агарнула душы.*
*Нават калі свалата*
*ціснe, трушчыць і душыць.*

*Ён даляціць, павер,*
*паўз замкі і праз кра́ты.*
*Паўз бетонны бар'ер.*
*Паўз драты й казематы.*

*Ў Полацак і Магілёў,*
*ў Жодзіна, Гомлю, Ветку,*
*ў Воршу, Гародню, Шклоў –*
*з волі чаканая вестка.*

*У скляпенні тугі,*
*у адсекі надзеі...*
*Праз сівыя снягі.*
*Праз парсекі завеі...*

*Вейна, Бабруйск, Ваўкавыск,*
*Берасце ды Навасады.*
*Горкі, Мазыр, Дзяржынск,*
*Віцьба й Пішчалаўскі замак...*

*Сэрцам перахрысці*
*і пакладзі ў скрыню.*
*Покуль ляцяць лісты,*
*не прападзем,*
*ня згінем.*

***

*Мова – мая ахова.*
*Мова мая – мой Сцяг.*
*Мова мая – мой Гонар.*
*Мова мая – мой Шлях.*
*Мова мая – зброя.*
*Мова – мая вайна.*
*Мова мая – мроя.*
*Мова – мая віна.*
*Мова мая – шанец.*
*Мова – стрэл ва ўпор.*
*Мова – таемны ружанец.*
*Мова – дзядзька Рыгор.*
*Мова – мая малітва.*
*Мова мая – таўро.*
*Мова – няспынная бітва.*
*Бітва са злом.*
*На злом...*
*Мову маю*
*пад канвоем –*
*ў жоўты пясочак,*
*ў расстрэльны роў.*
*Мова*
*пад ботам маёра.*
*Меты на карках*
*маркерам карнікаў.*
*Меты на целах*
*ад ног гапароў...*
*Мова мая – вызваленне*
*з карцара, з клеткі, са змроку, з турмы.*
*Разам*
*падняцца з каленяў.*
*Разам*
*чакаць пераменаў.*
*Мова мая – Мы.*



Фота bookmarin.com



Мікалай МАРОЗ

# Дзяльба

## 1

Было Ягорку чатыры гады, калі маці, лежачы з ім побач (бацька быў магутны тулавам і ўдвух на ложку з маці не ўмяшчаўся, і імя Ванук, якое даў яму нехта з вяскоўцаў, як ніякое іншае яму падыходзіла), неяк спыталася:

— Ты, сынок, на тату не крыўдуй. Ён суровы, яго жыццё часта біла па галаве…

— Чаму па галаве?

— Гэта так кажуць. Так што не сярдуй…

— А я і не сярдую. А ты каго з нас больш любіш — тату ці мяне?

Яна крутнулася ад сцяны да яго тварам, пацалавала ў шчаку.

— Вядома ж, цябе. Толькі ты яму нічога не гавары. А то ён цябе зусім не ўзлюбіць.

Гэтае «не ўзлюбіць» каменем, цяжкой цаглінай асела ў памяці, у сэрцы. Таму што і тады ён адчуваў, што гэта праўда.

Бацька быў у вёсцы ледзь не самым важным грамацеем. Ён хадзіў у хату-чытальню, выступаў нават перад сяльчанамі, усё распавядаў пра тое, што дзеецца ў свеце, чаму такі каварны і настырны вораг, які лезе да нас, каб знішчыць Краіну Саветаў.

Усё казаў слушна, не прычэпішся. А тады ішла барацьба з левымі ці якімі там ухіламі, і бацьку паклікалі на сход, бо быў актывістам, каб сказаў што-небудзь гнеўнае пра трацкістаў. Ён не стаў гаварыць, заўпарціўся, спаслаўся на тое, што яму трэба самому разабрацца, а пасля навешваць сабак. Так і сказаў: «навешваць на чалавека сабак».

— Сам ты сабака!.. — рэзка тады абарваў яго старшыня схода.

У пакоі навісла напружанне.

— Які я табе сабака, чорт ты счаўрэлы?! Ды ты сам… у цябе адзін клас з калідорам, а вучыш мяне!..

Бацька быў дзіцём свайго часу. Яму быў дакучлівы і брыдкі побыт, гэты «вірус мяшчанства», як ён называў, таму ў хаце нічога лішняга не было. Самым вялікім шчасцем ён лічыў волю і незалежнасць. Можа, ён і яго, свайго адзінца, якога «знайшлі» без узгаднення, не любіў, бо той быў для яго кайданкай, якая скоўвала ногі. Не любіў, як не любілі некалі прымусовы даважак да хадавога тавару. Ён маму лічыў таварам ходавым, а яго даважкам. Ягоркава сэрцайка чула гэты бацькаў халадок і ўсё болей гарнулася да матулі.

Завейнай ноччу, у студзені, нешта на калядкі, у хату без стуку і без запрашэння зайшлі два безаблічныя чалавекі. Мужчыны абмацалі знябожанага бацьку, які стаяў пасярод хаты ў белых споднiках, шукалі, відаць, абрэз ці пісталет, перарылі ўсё ў хаце, перавярнулі ўверх дном і пад знямелыя позіркі маці, да якой спалоханым зайчанём туліўся Ягорка, павялі гаспадара з сабой у машыну, якая стаяла перад веснiцамі.

Пазней, калі маці дамаглася сустрэчы з бацькам і права на перадачы, высветлілася, што яго загрэблі за трацкізм. Бацьку далі восем гадоў турмы.

Вялікага гора тады Ягорка не адчуваў, тады ён не лічыў, што страціў самага дарагога для сабе чалавека. Бацька для яго заставаўся такім жа нелюдзімым, чужым і далёкім.

Лістоў з Салаўкоў, куды бацьку запраторылі, маці не дачакалася. А праз сем гадоў, калі вайна пакацілася ўжо за Віслу, ён вярнуўся на радзіму. Вярнуўся змарнелы, сухі, скарчанелы, і побач з ім, трымаючы яго пад руку, стаяла невысокая, схудзелая, як трэска, жанчына.

— Гэта мая жонка, — сказаў ён проста, не гледзячы ў вочы той, якая восем гадоў яго чакала. — Грошы ў мяне ёсць і золата… Скажы, Гануля, дзе можна купіць хату. Каб звонкую, прасторную. Бач, у мяне жонка маладая, карэлачка…

Яна на карэлачку і паходзіла: нос таўсмаценькі, амаль пад «бульбіну», валасы, зачэсаныя назад, адкрывалі высокі бялюткі лоб, а ў вачах стоена жыў і працінаў гаспадыню, змарнелую жыццём, цёмна-сіні халадок карэльскай стыні. Яна глядзела на разгубленую Ганулю смела, без боязі, што верне, адбярэ назад у яе гэтага Ванука.

— Дуня, — адрэкамендаваў ён сваю маладзічку і ўзяўся знімаць паліто у яе, каб разам прайсці ў святліцу. Ягорка, якому тады было гадоў дванаццаць, перагарадзіў бацьку дарогу, сказаў:

— Там нічога тваёго няма. Ты ўсё сваё звёз туды, у ссылку. Так што каціся са сваёй мымрай… У манастыр ідзі. Вунь яго там, у Барані, адкрылі…

Маці схапіла сына за руку, адвяла ад бацькі, сказала паблажліва:

— Ён жа твой тата. Ён і грошай табе, і золата дасць…

Бацька збянтэжана цопнуў на лаву.

— Дам, чаму ж не даць! Мы з Дунькай людзі не скупыя. Праўда, многа не дам, а жменьку сыпану. Ну, ідзі да мяне, сынку?

Той стаяў знерухомлена побач з матуляй і ваўкавата-напыжана глядзеў на свайго бацьку. І не скрануўся б, каб сама карэлачка Дуня не падышла да яго, не абняла і не пацалавала ў лоб. Ён, збялелы, кінуўся стрымгалоў на вуліцу.

— А мяне ледзь не ўтапілі. Усіх нас, такіх, як і я, нелюдзяў… — гаварыў ён, седзячы на лаве, і было незразумела, жартам ён сказаў пра «нелюдзяў» ці ўсур'ёз. — Вывезлі на баржы і кінулі…. А вертухаі, сволачы, на лодках паўцякалі. А тут нямецкія самалёты, і бамбяць, і з кулямётаў па нас… Восень якраз стаяла, вада такая чорная, глыбокая, сцюдзёная была… Многія кідаліся з баржы і тут жа танулі. Я накрыўся нейкай плашч-палаткай і праляжаў дацямна. Скінуў яе, бачу, чалавек дзесяць, такіх жа здзічэлых ад страху… Але ж мы жывыя. Прыбіла неяк баржу да берага, а тут падляцелі вертухаі, тыя, што на лодках уцякалі, за нас і зноў на вострааў, зноў у няволю. А калі б і не падхапілі, куды мы дзеліся б: кругом вада…

Маці слухала і плакала, плакала і слухала, ды сэрца, якое моцна і балюча грукала ў грудзі, замінала слухаць мужаву споведзь…

У той дзень яна ўзяла ад свайго былога, ад пакутніка тры жменькі залатых манет, як яна называла, дукатаў (ад каго такое слова яна чула, Ягорка не ведаў), загарнула ў белую сурвэтку і схавала за абразамі. «На чорны дзень, — казала ўсцешана сыну. — Для цябе, калі пасталееш, будзе капейчына…».

За жмені дукатаў Ягорка бацьку больш любіць не стаў. Пакуль той з маладухай жыў на канцы вёскі, ён да яго ні разу не зазірнуў. Быццам вымарыў з сэрца і аблічча яго і наогул усё, што было на ім завязана да гэтага.

Бацька гадоў праз пяць выехаў у Падмаскоўе (балазе, грошы былі), жыў там з Дунькай, а тады нехта дзынкнуў Ганулінай суседцы, а тая прыляцела ў хату да ўдавы і адразу з парогу рэкнула:

— Твой жа памёр! Чаго ты сядзіш, як багародзіца!..

Гануля на пахаванне ездзіла з Ягоркам, тады ўжо сталым і разважлівым юнаком. Стоячы над узгалоўем у дамавіне, дзе ляжаў высахлы на лыка бацька, ён раптам адчуў, усвядоміў, зразумеў, што хавае бацьку. Што праводзіць у апошні шлях чалавека, які любіў яго, сына, і калі ад'язджаў той з маладухай у Падмаскоўе, падышоў да яго і сказаў дрыжачым ад плачу голасам: «Даруй, сынок! Даруй мне за ўсё, Ягорушка! Ведай, цябе я любіў, але жыццё было такое… Жыццё было палыновае! Прабач!».

Як жа тады, на пахаванні, яму, Ягорку, хацелася папрасіць прабачэння ў бацькі, як жа хацелася?!.

Пазней, калі ўжо вярнуліся дамоў, маці прызналася:

— Напісаў ён мне, сынок, адно пісьмо. Я табе не казала, збаялася. Каяўся і прасіўся ў сям'ю. Я адмовіла… Я выбрала цябе, сынок. Я ведала, што вы чужыя…

— Як чужыя?! — ажно задыхнуўся Ягорка ад болю. — Што ты нарабіла? Калі б быў з намі, не было б гэтай Дунькі-бздунькі!..

Той Ягор пасля з'ехаў ад маці. Куды, яна толкам не ведала, а ён доўга не пісаў. Праз паўгода яна атрымала ад яго ліст, у якім ён пісаў, што жаніўся, што жонка ў яго карэлачка, «Дунька-бздунька», тая, што пабралася некалі шлюбам з ягоным бацькам. Дуня была старэй за Ягора на восем гадоў, і жылі яны ў тым жа Падмаскоўі, недалёка ад той мясціны, дзе пахаваны Ванук.

Праз тры месяцы маці атрымала яшчэ ліст, у якім чырканула некалькі слоў і сама Дуняша, прызналася, што цяжарная, што з Ягорам яны жывуць душа ў душу…

Маці чэзла на вачах і неўзабаве памерла ад запалення лёгкіх.

Колькі пажыў з карэлкай, бацька нікому не расказваў. Відаць, нядоўга, і цяжарнай яна ад бацькі не была — схлусіла. Так распавёў сам Ягор. Усё хацелася ёй ванукових дабротаў, таго золата, якое вёз ён з Салаўкоў. Скрасці яго ён не мог, не такі ён быў — не зладзеяваты, сумленным быў чалавекам, і доўгі час заставалася загадкай, адкуль у дзеда Ванука аказалася золата. Казаў усё той жа Ягор — нібыта ўвайшоў у давер да манахаў, а тыя азалацілі яго за майстравітасць.

Вярнуўся Ягор на радзіму адзін, без карэлачкі і дзяцей. Тут знайшоў сабе дзяўчыну, маладую і прыгожую Марфу, пабраўся шлюбам. Ад іхняга кахання і нарадзілася двое хлопчыкаў, Герман і Максім…

## 2

Нехта хітрамудры, а па сутнасці бандзюга і прайдзісвет з ліку высокіх чыноўнікаў прыдумаў у ліхія 90-ыя так, што грошы, нажытыя людзьмі гарбом і мазалём, ляснулі ў адзін дзень. Нібы кінуў Максім Мацкевіч уласнаручна мяшок з грашыма ў агонь (ажно дваццаць пяць тысяч — па тым часе трое «Жыгулёў») і глядзеў, цешыўся, як з'ядае полымя ягоную новую кватэру. Іх надзею і сакральнае жаданне жыць па-чалавечы.

Усё ўраз абрынулася, скацілася з гары Везувій гарачай і неспатольнай лавай. Ён апусціў рукі. Здалася на волю выпадку і Карына. Яна па-ранейшаму хадзіла ў бальніцу, дзе працавала медсястрой і дзе бурна абмяркоўвалі грашовы абвал. Усе абураліся, усеківалі на тых, хто не лічыўся з чалавекам. Ён перастаў чытаць газеты — як знак пратэсту, і наогул не глядзеў навін па тэлевізары. Ён улёг у дэпрэсію, якую, між тым, правакавала і само надвор'е — пара позняй і змрочнай восені. Ён працаваў на бройлернай фабрыцы інжынерам, усё рабіў, як і раней, сумленна і будзённа, пакуль не ўмяшалася тое, што магло перавярнуць многае ў ягоным жыцці.

Да яго прыйшла ідэя. Раней ідэі яго не песцілі, ні ідэі, ні ідэйкі. Ён проста жыў і працаваў. Да сарака пяці пратаптаў зямлю без свежых і скразных думак. Каб навылёт. Каб з рызыкай і авантурамі, няхай, але каб не прэсна. А тут яго наведала ідэя. Выскачыла яна, як чарцяня з бутэлькі. «А што, калі адкрыць сваю справу?» — цюкнула неяк, ды так нечакана, што ён тыдзень не мог суняць сваё сэрца. Тым больш, што муляла тое золата, якое перадала яму бабуля перад смерцю — золата, якое некалі завінула ў белую сурвэтку і паклала за абразамі на «чорны дзень». Праўда, «дукаты» былі не толькі для яго, на золата меў свае правы і Герман, старэйшы ў сям'і Ягора. Але Максім разважаў: і дзед, і баба гулі ў адзін голас — золата толькі на справу. Не на пустэльгу, не на Канары ці тых жа ці ўсялякіх «бардэльеры», а на тое, што дасць прыбытак.

Вось і захацеў Максім стаць фермерам. Так заманулася яму, так закарцела, што ён, не раячыся з жонкай, пайшоў у райвыканкам. Там яго абнадзеілі, далі на рукі нейкія паперы. Ён ажыў. Ён затрызніў сябе земляробам, які ад зямлі праз тры ці пяць гадоў пабагацее, узвядзе на сядзібе асабнячок з ліштвамі і аканіцамі, завядзе другое, трэцяе дзіця. Быў адзін, Святаслаў, якому не было і пятнаццаці, так што не позна яшчэ. Адзін сын — не сын.

Ачахла ідэя. Адгаварыў яго брат Герман, які жыў у Санкт-Пецярбурзе. Ён, уведаўшы пра братаву бязглуздую ідэю, не стаў марудзіць і прыехаў, узяўшы водпуск. А заадно вырашыў наведаць старую маці, якая жыла з Максімам.

— Адкуль у цябе столькі авантурызму, Максім?! — гаварыў ён, апякаючыся гарачым чаем, прасна крычаў у Максімавай цеснаватай кватэры. На стале важна пузаціўся штоф гарэлкі, а яны пілі чай і крычалі адзін на аднаго. Два браты, якім увогуле не было чаго дзяліць — усё было падзелена бацькам, які перад смерцю распарадзіўся хату прадаць, а маці забраць каму-небудзь з сыноў. Спынілі выбар на Максу, хаця той упіраўся: неяк адразу пасля вяселля яна з нявесткай дужа не заладзілі. Але маці, Марфа Андрэеўна, і гаварыць пра пераезд у Пецярбург не стала, сказала як адрэзала: «Не паеду! Там жыў цар!». Прычым быў цар да сённяшніх падзей, ніхто з братоў не распытваў, вырашылі: нікуды не едзе! Таму, напэўна, і крычалі, і гаварылі без усякіх дыпламатый, бо падзяліў усё яшчэ бацька пры жыцці.

— Ты ведаеш, як жыў твой дзед Ванук? Ведаеш?! — зноў абвінавачы і рэзкі голас Германа, і голас яго ледзь не зрываўся на фальцэт. — Успомні нашага дзеда, успомні бацьку. Мала яны нацярпеліся ад гэтых уладавых выкрутасаў?! Ты станеш сугнеем, ты высахнеш так, як вобла, якую падаюць да піва. Ты, Максім, іхні нашчадак, ты… Усё, гаворка закончана!..

Гаварыў Герман так па праву старэйшага брата. Яго падтрымала Карына. Хаця і няземела, баючыся Максімавага шалу.

Максім не шалеў. Максім здаўся. Ён сядзеў за сталом, слухаў палкія братавы тырады, звесіўшы сваю сівую на скронях, з глыбокімі залысінамі, цяжкую галаву.

Герман паехаў, а Максім Мацкевіч цэлы месяц па вечарах сядзеў задумённы і ціхі. Ідэя згарэла. Як тыя дваццаць пяць тысяч. Ад фермерскага «пажару» Максім нічога не страціў, апрача хіба мільёнаў пяць нервовых клетак. Яны ўжо не адновяцца, як не вернуць і грошы. Якія грошы, калі ў краіне развал і разброд?!.

Зноў была тая ж нішчымніца-работа на фабрыцы, зноў Карына звыклымі завулкамі раніцой ішла ў бальніцу, каб наслухацца стогнаў і плачу, каб адкалоць хворых уколамі, адставіць крапельніцы, прапахлай валяр'янкай і ёдам, вярнуцца дамоў. Мужа дома яшчэ не было. Ён уваліўся ў хату шумны, бо быў пад мухай, а глянуў у залу і знiякавеў: жонка сядзела ў фацэтным крэсле і ледзьве не плакала. У вачах яе жыў адчай і нейкі невымоўны боль.

— Ты што, Карачка?!.

Ён цопнуў перад ёй на калені, абхапіў рукамі яе мяккія калені.

— Ну, чаго ты?..

З-за вушака дзвярэй у спальню за імі цікаваў Святаслаў.

— Хворых было шмат.

— Можа, і аварыя?..

— І аварыі таксама…

А, хутчэй за ўсё, яна плакала, бо прабівалася ўжо нязгода з тым, што і як робіць ён, Максім? Ён часцей стаў вяртацца з работы на падпітку, стаў многа курыць і лаяцца. Ён два тыдні, здаецца, не крануў яе ні разу ноччу, не папрасіў аб тым, што просяць мужчыны, калі ноччу ў адным ложку з маладой жанчынай. Яна лашчылася да яго, яна ціснулася, гладзіла ў ім усё, што магло б разбудзіць у ім патэнцыяльнага мужчыну. Аднаго разу ён усё-такі аддаў ёй тое, што належала па шлюбных законах, але ад такога вяртання даўгоў у яе застаўся сумны асадак: усё рабілася похапкам…

Сёння яна трагічна прызналася:

— Хачу пайсці ў манашкі…

Сказала трагічна, быццам у манастыр ідуць выключна няшчасныя.

— На Салаўкі?

— Чаму на Салаўкі? Там ж амужчынскі манастыр.

— Тады… як гэта яго… Сяндэмскі, там жа ў Карэліі. Ведаю ігуменню Варвару.

— Во яшчэ? Адкуль жа ведаеш?

— Была маёй каханкай. Калі там жыў, у Карэліі.

Карына засмяялася: во шэльма — усё перавёў на жарт.

— А там недалёка і Салаўкі.

— На што мне Салаўкі?

— Бо там быў мой дзед, Іван Амосавіч. Наш Ванук…

— Ну, дзед быў, ну і што? А я тут… з якога боку?

Максім зразумеў, што з логікай нахамутаў, здаўся:

— Што ж, Полацк побач. Магу завезці…

## 3

Марфа Андрэеўна жыла ў сына як у Бога за пазухай. Праўда, яна была ў тым вяку, калі радасці вялікай ад жыцця няма, ды тым не менш і з гаспадыняй, Карынай, ладзіла, і была пры яснай галаве і розуме.

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

# Дзяльба

Аднойчы Максім за вячэрнім сталом спытаў у маці:

— Скажы, а дзе пахаваны наш дзед Ванук?

— У Балашысе. Пад Масквой... А што, ты ні разу на магілках не быў?

— Ні разу.

— Як жа так?! Блудны ён быў, шэльма, але розумам Бог не абдзяліў. І золата меў... Шмат золата. І бацьку твайму пакінуў. Ну тое, што я табе аддала...

— Аддала... А куды дзедава падзелася?

Маці маўчала.

— Бедны Ягор, — пачынала яна неўзабаве. — Колькі ён нацярпеўся, а жыць па-чалавечы так і не навучыўся. А там было шмат золата. І дзедава, і ндзедава...

— Ну, мам, ты казачніца! — апаліў яе позіркам сын. — Калі тое было? Золата, золата... А Дунька-бздунька была... э-ге, была не промах. Такія могуць давесці да жабрацтва. І бацьку абвяла яна вакол пальца.

— Вакол пальца... — рэхам, але сумна і знябожана паўтарыла тая. — Значыць, золата пайшло прахам...

Маці памерла на згоне зімы. Перад самым скананнем яна, праўда, паклікала да сябе сына, каб сказаць сваю апошнюю волю, але на адыходах толькі прашамкала: «Сынок, ня можна так... Грэх вялікі...», выдыхнула яшчэ нешта шыпяча-бязладнае і — аддала Богу душу.

Герман на пахаванне прыехаў адразу ж пасля званка ад брата. Сеў на сваю машыну, пасадзіў жонку, двое дзяцей і надвячоркам у той жа дзень, калі памерла маці, ён заносіў у пакой, дзе яна ляжала спачылай, вянок з шыкоўнымі бардовымі ружамі.

Мітуслівa было, пакуль пахавалі, а калі селі за жалобны стол, наладжаны ў сталоўцы, Герман вывеў на вуліцу малодшага брата.

— Вось яно, такое наша жыццё... Мама казала пра нейкае золата. Ты не ведаеш, куды яно падзелася?

— Якое золата?.. — Максім адвёў убок вочы.

І тады Герман пайшоў на авантурны ход.

— Вось што, браце, не круці! Ты ведаеш, дзе золата? І дзедава, і тое, што было ў руках бацькі?!

Герман перайшоў на вокрык.

— Ты што, браток?! — не на жарт спалохаўся Максім. — Праз гэты гіблы метал?.. Ды гары ён сінім агнём, гэты... Ты што, думаў з-за яго разбагацець? Ну ты, блін, дзівак-чалавек...

Назаўтра Герман хадзіў па братавых пакоях моўчкі і панура. Ён хацеў выцягнуць з Максіма таямніцу, але душыў у сабе гэтае брыдкае зараз яму жаданне. Хаця чаму брыдкае, хто даве́ў яму, што брыдка ведаць праўду, Герман не разумеў. Відаць, перакапала тая істота, сарамлівая і прыкрая, што сядзела ў ім: яна не хацела псаваць адносіны з малодшым братам, які жыў у цесных пакоях і ўсё трызніў нейкімі дзіўнымі ідэямі.

Пакуль так разважаў і вагаўся, Максім сам падступіўся да ўчарашняй размовы.

— Ведаеш, браце, наш бацяня, ну, калі браўся з карэлкай, аддаў золата ёй. Яна вырвала, шэльма!.. Інакш не давала згоды на шлюб. Гэта мне маці сказала. Даўно, яшчэ калі мы з табой пяшком пад стол хадзілі...

— Хлусня! — абарваў яго старэйшы, пецярбуржац. — Матка такое не магла сказаць, бо не ведала. Бацька золата хаваў за сямю замкамі!

— Ведала! — упарціўся Максім. — Ведала... І ён ёй прызнаўся, і прыйшоў да маці, да нашай Марфы, голенькі, з пустой кішэняй. І яна яго прыняла, бо была ўжо ў тых гадах, калі магла застацца бабылкай.

— Калі так, дык навошта было гарод гарадзіць?!


Фота atem-tour.ru

## 4

Недзе праз паўгода ў невялікае мястэчка на Віцебшчыне на адрас Максіма Мацкевіча прыйшоў ліст з далёкай Карэліі. Першай прачытала яго Карына, якая раней вярнулася з работы. Прачытала і — адчула, як дробненька затрэсліся ў яе рукі, закалаціласяа сэрца, стала цяжка дыхаць. «Золата... Золата... — балюча тахкала ў яе скронях. — Якое золата? Чаму пра яго Макс ні разу не расказаў? Дзе яно? Для каго?.. І сястра вось гэтая... зводная. Во падзея!».

Максіма яна сустрэла на парозе бледнай і разгубленай. Не даючы яму распрануцца, яна трэсла перад ім пісьмом і паўтарала адно і тое ж:

— Што гэта?.. Што гэта?.. Дзе яно, куды схаваў? Куды?..

Максім прыгарнуў знясілелую жонку, павёў у залу, пасадзіў яе побач з сабой на канапе.

— Што здарылася?

Яна бездапаможна тыркала яму ў твар пісьмом. Ён перахапіў яго, ускочыў з канапы, выняў доўгі ліст з вучнёўскага сшытка, спісаны з двух бакоў. Па меры таго, як чытаў, твар яго мяняўся, рабіўся то бледна-шэрым, то пакрываўся ружова-сінелымі плямамі, а калі пачаў чытаць ліст уголас, мылячы губамі, паўтараючы словы, то рукі ў яго трэсліся, як у неўрастэніка.

Не дачытаўшы да канца ліст, зморана сеў побач з жонкай, сказаў посна і будзённа:

— Ну і што? Было б ад чаго бедаваць?! Золата? Казаў жа Герману... А тут сястра... як снег на галаву. Дык бацька і ад Дунькі нажыў. Во супермэн!..

Яна спалохана глядзела на мужа, слухала і не чула яговыя апраўданні, і збрыдзелы ад слёз твар яе камянеў.

Максім прыгарнуў яе да сябе, палахліва, як дзіця, пацалаваў у скроню.

— Ты праўду кажаш? Няма ў цябе золата?

— Ну.

— Што ну, баранкі гну! Давай выкладвай усё, інакш напішу ў міліцыю...

— Пры чым тут міліцыя? Ну, зберог трошкі дукатаў, як казаў некалі наш Свецік... Зусім трошкі... Трэба ж пакінуць нашаму Святаславу на абжыццё!

Яму будзе дваццаць, мне ўжо плеш выеў: давай машыну, бацяі А з чаго яму тую машыну?.. З калена выламаю? Ну, абмяняю на даляры, вось на імяніны і падарым. Будзе сюрпрыз...

Карына хвіліну знямела глядзела на мужа, затым імкліва ўскочыла з канапы, нервова забегала па пакоі.

— Як жа табе не сорамна?! Як жа ты не праваліўся скрозь зямлю?! За падман, за ўсё гэта... Брыдка і гідліва! Гэта ж непрыстойна, няўжо ты не разумееш, яловая твая галава?!..

— Непрыстойна? Помніш, я табе расказваў пра дзеда, пра тое, што ён бацьку майго не любіў, ён быў для яго даважкам да тавару, да жонкі сваёй. Вось і я для Ягора быў даважкам. Я гнілы селядзец да мандарынаў у залаты савецкі час. А Германа ён любіў больш, ён яму і кватэру ў Піцеры купіў. За якія шышы? А я быў паскрэбыш, мяне ўсе цалавалі, але лічылі дурнем і блазнам. І я хачу жыць прыстойна і заможна! Што, не маю права?

— Маеш. Аднак гэтыя даброты трэба зарабіць!

— А Герман зарабіў? Жыве ў шыкоўнай кватэры ў Піцеры, дача ў яго, машына, дзеці на машынах... Якога ражна яму трэба? Я сам яму раскажу... пра золата. Бач, бярэ мяне загрудкі!

Карына астыла.

— Хто ж табе яго перадаў?

— Матка. Я быў для бацькі пасынкам, гнілым селядцом...

— Гэта я чула!..

— Паслухай яшчэ! — крычаў ужо Максім. — Паслухай і не перабівай!.. Я быў для яго пасынкам, я падышоў неяк і прыстрашыў: «Ты аддасі мне астатняе золата, інакш я пайду ў міліцыю». Як вось ты мяне страшыла. А бацька збляднела развёў рукамі. Ён не прызнаўся... а мо і не ведаў пра дзедава золата... А на свае... Сваe вось хацеў укласці, захацеў быць фермерам. І сыну трохі пакінуць... А тут Герман налящэў, зганьбіў, растаптаў маю ідэю.

— Але ж гэта чужое золата! Іхняе, ад той карэлкі, з якой жыў твой дзед Ванук. А тут гэтая Зінка...

— Зінка, рызінка... — зласліва працадзіў ён праз зубы.

Між тым падзеі разгортваліся не так, як хацелася б Максіму. Праз тыдзень яму патэлефанаваў Герман.

— На цябе падаюць у суд. Званіла мне наша зводная сястра Зінка. Жыве яна з маткай у Карэліі, у мястэчку Сартавала.

— Дык гэта ты даў ёй мой адрас?

— А што, нельга было? Я сам не ведаў пра сястру, пакуль не атрымаў ад яе цёткі ліст. Яна жыве бедна, на матчыну пенсію. Зарабляе нішчымніцу. Вось табе і Расія...

Максім слухаў братавы словы знямела, адчуваючы, як балюча тахкае ў скронях гарачая кроў, як замірае сэрца.

— Што ты маўчыш? Чую, зіпаеш, як той пячкур. Што, язык адняло?

— Ты... гэта... што? Ты знарок бярэш мяне за глотку!..

— Ты даслухай. Наш дзед Ванук быў голы, як сакол. Няўжо ты паверыў у тое, што з Салаўкоў можна прыехаць на залатым кані?! Ды акруціў наш дзед карэлку Дуньку, бо ведаў, што яна з золатам. І бацька наш ведаў, таму і жаніўся на ёй пасля... А золата-то чужое!

— Як чужое?

— А так. Знайшліся паперы, у якіх дзед наш Ванук паставіў свой подпіс на вопісе манет па пятнаццаць рублёў золатам кожная. З выявай Мікалая. Грамацеем быў важным... Зараз золата ў такой цане, што табе і не сніцца. Сто манет. Ты чуеш? І з тых манет дваццаць асела ў цябе. Я ведаю, што бабка табе аддала, і не сярдую. Але ж і ты розум не губляй! Няўжо ты не разумееш, што яно, тое золата, чужое. І копія дакумента ёсць... прыслалі мне з Сартавалы...

— А як жа наш бацька?.. І ён падпісваў паперы?

— І ён. Паехаў у тую Карэлію з Дунькай, там і заручыўся.

— Але ж бабка казала, што дзед яшчэ з той Дунькай імперыялы падарылі ёй. Для нашага бацькі, для Ягора Іванавіча... Дваццаць манет. А хіба падарункі адбіраюць?

— А хто гэта бачыў? Хто засведчыць, што падарунак?

Навісла доўгае і пакутлівае маўчанне, толькі чуваць, як сапе на адным канцы проваду чалавек, як кашляе, нібы сапраўды прабілася хвароба, як чмыхае носам, не ведаючы, што казаць далей. Выручыў той, хто быў на другім канцы.

— Золата трэба вярнуць. Перадаць нашай сястры, яна бедная... І муж хворы... Падтрымаем жа яе, га, браце! Давай-тка рванём да яе, га?..

«Браце» маўчаў, зацята і сярдзіта: як так — няўжо давядзецца расстацца з тым, што столькі гадоў грэла сэрца і думы, аддаць тое, што стала яго родным, кроўным, дарагім і вельмі патрэбным у час гэтага абрыдлага безграшоўя.

— А дзе ж тое, што засталося ў нашага дзеда?.. З той жа Дунькай? Няўжо растранжырыў?

## 5

Максім замкнуўся ў сабе, стаў яшчэ больш маўклівым і раздражнёным. Карына яго не чапала, ведала: праз дзень-другі сам загаворыць.

Так і сталася. За вячэрай, калі сына не было яшчэ дома (ён часта бавіўся з сябрамі да поўначы, брынкаў на гітары, казаў, што стварае сваю поп-групу), ён нечакана заявіў:

— Бяру водпуск і еду ў Сартавалу.

— Куды? — не адразу зразумела Карына.

— Да сястры.

— А як твая мара, твая ідэя-фікс?

— Якая фікс? Ты пра станцыю тэхабслугоўвання?

— Ну.

— Ідэя Германа, няхай ён яе і адкрывае. Я хацеў, ты ж ведаеш, я пра сына... Ён загарэўся эстрадай. Што з гэтага выйдзе, не ведаю. Можа, пшык. Як з майго фермерства... Але ж падтрымаць хлопца трэба.

— І што? Чаго тады табе ў тую Сартавалу?.. Напішы ёй, раскажы, што ды як.

— Не, я хачу паглядзець на свае вочы, як яна жыве. Ці так, як кажа Герман...

— Не верыш брату?

— А чаму я павінен яму верыць? Ён што, быў там, у сястры?

— І золата павязеш?

— Павязу.

— Усё?..

— Усё. Да апошняга дуката...

Прыехаў Максім з Сартавалы праз тыдзень. Бадзёры, узрушаны. Адмахаў не адну тысячу кіламетраў, а на твары ні слядочка ад стомы ці зморанасці. Вясёлы, у гуморы, ён, седзячы на канапе, расказваў жонцы і сыну, які якраз быў дома.

— Што бедна жывуць, кідаецца ў вочы адразу. Дом пахілы нейкі, струхлелы. Ён на ўскраіне гарадка, і жывуць беднавата. Прывёз я ім гэтыя дукаты, глядзяць яны на золата, як на дзіва. Дзеці ў Зінкі... трое ў яе, двое ходзяць яшчэ ў школу. Пагаварыў з сястрой. А тут на парог і муж, сваяк мой. Высахлы нейкі, зжаўцелы. Па чарцы кульнулі, разгаварыліся. А ён і кажа: «На халеру мне твае золата?! Што я буду з ім рабіць?» «Як, — кажу, — здасі куды трэба, а грошы на абжыццё». «Не, — кажа ён, — дармавых грошай ніколі ў руках не трымаў. Усё з мазаля. На карысць не пойдуць. Вязі назад!» А тут і сястра падышла, прысела ля нас і кажа: «Ты, Пятрок, не крыўдзі майго брація. Бач, ён прыехаў з Беларусі і не з пустымі рукамі. Ехаў здалёку, каб парадаваць нас, а ты вось як...». «Ды я што? — аднекваўся Пятрок. — Твае золата, тваіх продкаў, ты і разбірайся».

— Дык ці разабраліся ж?.. — не вытрымала, перапыніла расповед Карына.

— Не перабівай! — злосна абарваў яе Максім. Закурыў, адчуваючы, як ад нервовай дрыготкі замірае сэрца, пацеюць пальцы рук. Сціснуў гармонікам падпаленую цыгарэту, рэзка шпурнуў ад сябе па стале попельніцу і сказаў важка:

— Прыехаў і Герман. Адзін, без сваёй мымры... Вось так... і наладзілі мы сямейную раду. Гаварылі пра ўсё, пра дзеда з бабай, пра Салаўкі, пра Ягора і пра золата. Аказваецца, жонка Германа, Маруся, усё штурхала яго, усё зудзіла яму, шаптала ўсякае і пра мяне, і пра тое, каб дзяліўся. А я што? Думаеш, такі я жмінда, што зажылю золата? Адзін з'еш хоць вала...

Максім устаў з канапы, лёгка, малайцавата ўсміхнуўся:

— Ну вось і лёгка на сэрцы. Лёгка і добра...

У яго на сэрцы сапраўды стала лёгка, і тая пуставатасць у гаманцы ўжо не мела для яго ніякага значэння. І даважкам, чым лічыў сябе не так даўно, ён сябе не адчуваў.

— Няўжо ты прыехаў з пустой кішэняй?

— А ты адкуль ведаеш?! Прывёз трохі. Для нашага Святаслава перадалі. Што, я мала нацярпеўся, пакуль хаваў гэтыя дукаты?!.

— Ну, а дзедава ці знайшлі?

— Золата?

— Золата.

— Знайшлі і дзедава. Знайшлі тыя, хто быў з наганамі на баку. Нехта данёс, калі жылі яны ў Балашысе, пра мікалаеўскае золата. Дзед, казалі, закапаў яго ў трох месцах. У гаршчочках. Білі яго ашалела, па-звярынаму, білі і піць не давалі. Здаўся, капнулі — не столькі манет. Зноў білі, зноў капалі, і там не тое. Так тры схованкі і знайшлі. Усё выграблі, усё дачыста...

Карына моўчкі павярнулася і пайшла на кухню. Адтуль крычала:

— Во звяр'ё! Няхай бы нам нешта перапала...

— Перапала ж во... А ў астатнім самі нажывём. Толькі б не схібіла здароўе. А ты сама, ці чуеш, у манастыр ужо не збіраешся?..

Карына зноў выйшла да яго ў залу, убачыла ў яго на далоні пяць манетак, цёмна-чырвоных, маленькіх, беражліва пакладзеных адна на адну, і моўчкі накрыла ягоную далонь сваёй, нібыта баючыся, што нехта адбярэ ў іх і гэтыя імперыялы.

# Называй маё цела



Артур КАМАРОЎСКІ

## Называй маё цела

*даставаць гэтую крохкасць*
*класці побач з бразільскім імем на шалі*
*хто пераважыць — няхай цела маё*
*суцяшае*
*няхай дорыць яму коды і ўзоры*
*далёкіх галактык*
*дзе ні крохкасці, ні найменняў*
*толькі зорнага дыхання дотык*
*няхай лепіць яму сутнасць*
*аблічча й абрысы*
*адной неадрыўнай міжгалактычнай*
*рыскай*
*пазбавіць выразных мужчынскіх*
*жаночых адзінак*
*каб выляпіць самасць, такую*
*вялікую й дзіўную як*
*нешта па-за геаграфіяй,*
*часам*
*і скуры маёй манускрыпты*
*як вечнасць і ты.*

***

*Васілісе Палянінай*

*няўрымслівае жоўтае цельца,*
*гарэза-каза,*
*там дзе лес прыхарошвае твар*
*і гуліць драбяза*
*скрыжаванае веце*
*расчэсвае нам валасы*
*і выходзяць чужыя звяры*
*называй дары.*
*варажы на атожылках нашых цел*
*каб рубін вераб'ём на руку ўзляцеў*
*каб пад скураю скура была*
*бірузой,*
*каб гулялі з казой.*

***

*называй маё цела,*
*перабірай слізкія літары ў роце.*
*самыя горкія — выбірай,*
*ратуй.*
*безназоўнае — пакідай на самоце.*
*яно ўзыдзе аднойчы*
*гаваркою ракою зялёных туй.*
*называй маё цела —*
*яно будзе выходзіць з ценю*
*вечназялёных дрэваў,*
*усіх гарадоў,*
*каб радзімкі свае й рабаціннне*
*аддаць*
*сляпому зіхценню,*
*невымоўнаму — кроў.*
*называй маё цела*
*самым белым і верным словам,*
*самай крохкай і вечнай*
*з усіх скульптур.*
*яно будзе чакаць на твой голас*
*пад аховай алькова,*
*мой нур*

***

*мова майго языка —*
*неспазнаная рэч у сабе*
*невядомая плынь*
*(плысці ёй да вытоку*
*глытаць*
*даўкія гукі й літары)*
*збіраць пад падушку*
*палын*
*ад запазычанняў*
*запальваць і-маякі*
*апострафы-ліхтары*
*гаварыць*
*значыць быць па-за мовай*
*навідавоку*
*аддаць яе пад ахову*
*самой сабе*
*ці жывое зямлі*
*што навокал*
*бывае яна брыняе вадою*
*а тая цурчыць*
*праз сляпыя адтуліны*
*і наradжае словы*
*такія*
*што мне*
*ніколі не прыручыць*

***

*малое і лёгкае*
*нібы рассыпаць соль*
*прарастае ўва мне*
*растком*
*і даверлівым стукам*
*паміж сэрцам і лёгкімі*
*вось*
*вашая столь*
*канапа і ручнікі*
*і раўчукі маіх рук*
*брыняюць вадой*
*і гукам*
*расплываюцца хто куды*
*выпускаюць свае целаходы*
*і тыя вязуць*
*гаваркіх пасажыраў*
*на выспы і астравы*
*яны выбіраюць*
*наўмысна*
*хады й пераходы*
*брасам ці бродам*
*ад вады*
*да бяссоннай травы*
*каб пасля падглядаць*
*за святлом*
*у нябачную шчыліну неба*
*запамінаць*
*яго зрухі і крокі*
*ад вытокаў і пылу*
*да крохкага паднябення*
*і ўрадлівая глеба*
*майго языка*
*адчыніць ім дзверы*
*і дасць збавенне.*

## анігіляцыя

*дзяцел*
*чысціць бліскучыя пёркі*
*цэліцца дзюбай у цела*
*цела спіць*
*галавою ў напрамку Нью-Ёрка*
*цела мкнецца застацца цэлым*
*пад прыцэлам*
*зямлі і джала*
*цела песціць штосьці ўнутры*
*жывое*
*цела — джа*
*лабірынт непралазных венаў*
*і цяпла сувой*
*дзяцел цвеліць*
*цнатлівае цела часам*
*адзінотаю цэнтрал-парка*
*цела спіць*
*пакуль дзяцел у кіпцюрах трымае*
*спадкаемцу terra і sarsa.*

***

*прачынаешся, намацваеш цела.*
*на прасціне, нібы на вайне, усё проста.*
*працягваюць вецце праз вокны дрэвы,*
*пераскокваюць міны ўзросту.*
*прасцяг сцерагуць невядомыя птушкі,*
*прасейваюць сонца спевам*
*цела балела пакуль свядома*
*не выйшла за дзверы залевай.*
*гарачыя кроплі цалуюць сцёгны*
*выводзяць на скуры знакі*
*спявай жа, цела, пакуль насенне*
*не ператворыцца ў макі.*
*пасееш семя што цягам часу*
*засцеле поле абрусам*
*і дзяцел сцішыцца ў вецці дрэваў,*
*і жук пагайдае вусам.*

***

*хтосьці кемлівы*
*звыклы да фільмаў з субтытрамі*
*расчытае фірмовыя знакі скуры*
*цела*
*што хавае сябе за фільтрамі*
*спецэфектамі і тэкстурамі*
*прачынаешся*
*падымаеш дзень-ноч фіранкі*
*запіваеш кефірам сненні*
*фонам —*
*Колтрэйн і Фіцджэральд.*
*тыя ж ранкі,*
*той жа скуры фасон і адзення.*
*за вакном*
*вецер дзьме ў раты фарынгіт*
*падае форт мой пад воплескі*
*зрыфмуеш*
*з нотаю фа вечны біт*
*фортэ і сонца водбліскі.*

***

*узысці над сабой,*
*як горы ўзыходзяць над морам.*
*вымераць цела мераю вышыні.*
*вылетаць вечнасць*
*паветраных калідораў,*
*вымавіць ціш.*
*ні*
*рукі мае,*
*ні словы,*
*не знаюць, як абняць сябе,*
*зрыфмаваць.*
*дзесьці глыбока пад скураю —*
*сховы,*
*ды што з іх узяць.*
*выйсці з сябе*
*нябачнай эдэмскай ракою.*
*толькі такою,*
*каб рыбы маглі гаварыць.*
*«бачыш — Эдэм», —*
*кажу свайму целу, каб супакоіць.*
*нічога, нічога.*
*удыхаю ў поры святло,*
*злізваю соль.*
*апранайся,*
*хадзем.*



Фота arte1.ru



Фота wallpaperscraft

***

*пакажы мне мяне*
*пагляdзі на мяне вачмі*
*незнаёмага гнуткага вадкага цела*
*дзе няўлоўным святлом*
*нібы сокам дрэў і зямлі*
*запаўняецца тонкасць вен.*
*цэлы свет не бясконцасць*
*а толькі імкненне рук*
*гэтых пальцаў*
*гістэрычны працяг ды імкненне*
*яны кажуць*
*чапляй паліто на крук*
*яны кажуць*
*насалоджвайся гэтым імгненнем*
*бо ўсё*
*нават мова за даланёй*
*гэта*
*штосьці паміж табою знутры*
*і табою звонку*
*пагляdзі на мяне мной.*
*твае рукі –*
*мая вендэта*
*таму*
*няхай ірвецца дзе тонка*

***

*адну ненавіджу*
*другую люблю*
*абедзьве — я*

***

*гэта не я сяджу на балконе*
*восеньскай спёкай,*
*а зямля ляжыць на зямлі —*
*сыходзяцца вернасць лініі*
*і вераломства кола.*
*гэта мяне змялі,*
*нібы прах і пыл.*
*у кішэні Сусвету лёгка*
*забыць на мову, не варушыцца,*
*не дыхаць,*
*адным мурашам вядома,*
*што гэта не я сяджу на балконе*
*восеньскай спёкай.*
*ды што з таго і таму,*
*хто каменнем гуляе ў косці*
*і не знае паразы,*
*хто страла і рука.*
*карані — гэта неба імклівых зорак*
*ці нябачных уцёкаў.*
*за пульхнай зямлёю, не той,*
*што ляжыць на зямлі, —*
*паркан.*
*бачыш, гэта не я сяджу на балконе*
*восеньскай спёкай,*
*бо самлелыя яблыкі падаюць*
*на зямлю і на плечы,*
*становяцца лініямі і адкрываюць вочы.*
*таму, што, замкнутыя колам высока,*
*не маглі перакладаць*
*з яблычнай на чалавечую.*
*увечары мне быць далёка,*
*а цяпер — выбіраць завушніцы.*
*ведай: гэта не я сяджу на балконе*
*восеньскай спёкай,*
*бо даўно ўжо падаю ніцма.*
*зрэшты, магу памыліцца.*
*бо далягляд,*
*пазбаўлены імені, становіцца змрокам.*
*таму застаюся на месцы,*
*і зямля ляжыць, як ляжала —*
*ні кроку назад.*
*гэта не я гляджу на мой горад,*
*мой сад.*
*гэта не я сяджу на балконе*
*восеньскай спёкай.*

